ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№37 (2543)

11 верасня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

КАНФЕСІІ



Ксёндз-магістр, пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК (справа) і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ФІЛАРЭТ.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## ЛЯЧЫЦЬ ДУШЫ РАЗАМ

**Ужо некалькі стагоддзяў праваслаўе і каталіцызм з'яўляюцца трывалымі стаўпамі, на якіх будуецца і трымаецца духоўнае жыццё Беларусі. Так, у гісторыі гэтага тандэму хапала ўсяго, але і на цяперашні час згаданыя дзве плыні хрысціянства дамінуючыя ў сількасцях насельніцтва, якое, аднак, шчасліва не ведае, што такое міжрэлігійная варожасць. Газета "Голас Радзімы" на сваіх старонках неаднойчы давала слова прадстаўнікам розных канфесій, зыходзячы з таго, што, чым лепей будзе вядомая пазіцыя кожнага, тым лягчэй зразумець яе і прыняць. На гэты раз наш субяседнік — ксёндз-магістр, пробашч касцёла святых Сымона і Алены ў Мінску Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК.**

***— Айцец Уладзіслаў, ці адчуваеце вы сёння пэўны аптымізм у сваёй справе, справе адраджэння духоўнасці? Магчыма, нешта вас усё ж турбуе?***

— Шаноўныя чытачы, пахвалёны Езус Хрыстос. З вялікай радасцю звяртаюся да вас як святар і чалавек. Мне прыемна, што праз гэтыя старонкі мы зможам абмяняцца думкамі, магчыма, знайсці супольную ідэю, падтрымку, адчуць адзінства.

Што тычыцца майго ўспрымання цяперашняга часу, яно, безумоўна, неадназначнае, думаю, як і ў кожнага з нас. Есць аптымізм. Але не толькі. Часта, калі чалавек дзейнічае досыць актыўна і плённа, пра яго кажуць: аптыміст. Аднак людзі павінны заўсёды з радасцю працаваць, ісці па жыцці. І пэўна гэта таксама радасць: праз столькі год у касцёлах на Беларусі зноў вядзецца набажэнства і на роднай мове. Прычым, лічу, працэс гэты не прымусовы, а натуральны. Дзякуючы пераменам апошніх год, мы можам нармальна ўвайсці ў сучасны рытм адраджэння народа, жыцця, духоўнасці на Беларусі.

***— Як здарылася, што вы пачалі карыстацца беларускай мовай!***

— Зразумела, заўсёды так не было — нават і на польскай мове духоўныя кнігі везлі з Польшчы, Літвы, Латвіі, як ні сумна, кантрабандай. Нават за крыжык, медалік ці абразок на мяжы сапраўды трэслі і ўсё адбіралі, бо тое лічылася горшым, чым зараз наркотыкі. Таму нярэдка людзі проста ў блакноцік запісвалі малітвы ад рукі, сшывалі ніткамі — выходзіла амаль кніжка. Такія малітоўнікі можна знайсці паўсюль на Беларусі. Сёння некаторыя падобныя экземпляры мы захоўваем, як кажуць, для гісторыі.

***— Самаробныя малітоўнікі пісаліся па-польску?***

— Па-польску, рускімі ці беларускімі літарамі. Але зразумела, на Беларусі абыходзіцца без беларускай мовы ў святынях — нонсэнс. Канешне, старэйшае пакаленне людзей, якія мелі некалькі класаў польскай школы, магло нешта прачытаць і зразумець. А для маладых набажэнства на польскай мове практычна

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## БУДЗІЦЕЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

*Да 85-годдзя Пятра БІТЭЛЯ*

**Мілая Маці-Краіна, любая сэрцу да слёз!
Плакалі мы, што ты гінеш, бачылі чорны твой лёс.
Верылі: знікнуць напасці, што навісаюць гурбой,
Кветка Купальскага шчасця будзе цвісці над табой.**
**Янка ЗОЛАК.**

Калісьці гэтыя прачулыя радкі моцна ўсхвалявалі Пятра Бітэля. "Як быццам дакрануўся да паэтычнай ліры Максіма Багдановіча, якая шчыра і годна заўжды прамаўляе да нас", — сказаў ён пасля выхаду на волю са сталінскіх лагераў.

Звяртаючыся ў думках да светлай постаці чалавека надзвычай прыгожага душой, настаўніка, паэта, даследчыка мінуўшчыны, невымерна шкада становіцца, што так мала выпала на яго долю спакойна жыць і творча працаваць. У пасляваенныя гады, калі, здавалася б, так патрэбны былі адукаваныя і сумленныя людзі, яго, выхаванца Барунска-Віленскай настаўніцкай семінарыі імя Томаша Зана, выкладчыка беларускай мовы і літаратуры, мясцовыя кіруючыя органы на Валожыншчыне пазбавілі месца працы ў школе. А пасля таго, як ён, шукаючы працы, згадзіўся служыць святаром у праваслаўнай бажніцы, кіруючыя чыноўнікі спахапіліся. Тут жа "прышылі" настаўніку палітычную справу і аддалі ў рукі спецорганаў, дзе пасля працяглых здзеклівых допытаў, магчыма, каб лепш абгрунтаваць рэлігійнае "злачынства", накіравалі інтэлігента на перавыхаванне на свае дасведчыя пляцоўкі далей ад родных мясцін. Так, у 1950 годзе, яшчэ пры жыцці "бацькі ўсіх народаў", Пятро Бітэль апынуўся ў сталінскіх катаржных лагерах.

Настаўнік, вялікі патрыёт сваёй Бацькаўшчыны моцна перажываў расстанне з родным краем, залічваў сябе да "катаржных эмігрантаў", бо не ведаў, ці ўдасца выжыць у суровай Сібіры.

Лагернік Пятро Бітэль быў узорным пакутнікам. Увесь час думаў пра лёс жонкі і траіх дзяцей, імкнуўся быць асцярожным, каб не рызыкаваць блізкімі. І ўсё ж давялося трапіць з Кемераўскай

(Працяг на 6-й стар.).

## ДЫК ДЗЕ Ж НАРАДЗІЎСЯ АДАМ МІЦКЕВІЧ?

Трыццаць першага жніўня 1996 года на навагрудскіх чытаннях Л. Усенка і С. Анісімава, супрацоўніцы Дома-музея Адама Міцкевіча, выступілі з рэфератам, у якім звярнулі ўвагу на існаванне некалькіх Завоссяў у час жыцця вялікага паэта і выказалі ідэю аб яго нараджэнні не ў Завоссі Калдычэўскім, а ў Завоссі пад Навагрудкам. Супрацоўнікі звярнуліся па дапамогу да навукоўцаў, у тым ліку і да мяне асабіста. Шчыра жадаючы дапамагчы, я пачаў пошукі ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Гродне, фондах Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея і апублікаваных крыніцах. У выніку маёй працы высветлілася, што сапраўды існавалі тры Завоссі (Калдычэўскае — вёска, шляхецкая ваколіца і фальварак, пад Навагрудкам — вёска над ракой Осай; засценак за 42 вярсты ад Навагрудка) — пра гэта сцвярджаюць карта Гродзенскай губерні 1914 года, упаміны сучаснікаў і "Slownik Geograficzny Krolestwa Polskiego i innych Krajow slowianskich". Аказалася таксама, што няма дакументальных пацвярджэнняў месца нараджэння Адама Міцкевіча, што прывяло да існавання розных поглядаў на гэтае пытанне.

З ліпеня 1997 года я прачытаў артыкул Льва Мірачыцкага ў "Голасе Радзімы". Паколькі ён прысутнічаў на вышэйзгаданых чытаннях, дык гэты апублікаваны матэрыял, відаць, з'яўляецца ягоным адказам на просьбу Л. Усенка і С. Анісі-

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



На беразе Заходняй Дзвіны ў Віцебску ідзе будаўніцтва Благавешчанскай царквы.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ПА ТЭМПАХ РАЗВІЦЦЯ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСЬ ВЫЙШЛА Ў СУСВЕТНЫЯ ЛІДЭРЫ

*З інтэрв'ю Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ газеце «Дзелавы свет».*

Наша мэта — сацыяльна арыентаваная рыначная дзяржава, што мяркуе арганічнае злучэнне пераваг сучаснай высокаразвітой рыначнай эканомікі і захаванне сацыяльнай абароны грамадзян.

Галоўным напрамкам рэфармавання і развіцця эканомікі з'яўляюцца рацыянальнае аб'яднанне розных форм уласнасці, стварэнне рыначнай інфраструктуры, структурная перабудова эканомікі, павышэнне яе навукова-тэхнічнага патэнцыялу.

У якасці асноўных крокаў, якія будуць падтрымлівацца дзяржавай у першую чаргу, вызначаны: нарошчванне экспартнага патэнцыялу; рэфармаванне аграпрамысловага комплексу і звязаных з ім галін у мэтах вырашэння праблемы забеспячэння краіны прадуктамі харчавання; стварэнне магутнага будаўнічага комплексу, які б забяспечваў жыллёвае будаўніцтва.

Сёння ў рэспубліцы назіраецца стабільнасць ва ўсіх галінах эканомікі, буйныя прадпрыемствы гатовы да выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі, мы маем высокакваліфікаваны, добра абучаны персанал.

У 1996 годзе мы дасягнулі нядрэнных вынікаў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, вырашэнні сацыяльных праблем.

Пераканаўчым пацвярджэннем правільнасці праводзімых мерапрыемстваў з'яўляецца ход выканання найважнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1997 год за I паўгоддзе бягучага года.

У рэспубліцы створаны добрыя перадумовы для якаснага скачка практычна ва ўсіх сферах жыццядзейнасці грамадства, і, калі мы замацуем усё станоўчае, што ў нас ужо ёсць, выканаем намечанае, не дапусцім развалу эканомікі і сельскай гаспадаркі, захаваем стабільнасць і парадак, Беларусь будзе паціху набіраць магутнасць і зойме дастойнае месца ў сусветнай супольнасці.

*МІЖНАРОДНЫЯ КАНТАКТЫ*

## СПЯШАЦЦА ПАВОЛЬНА

"На думку многіх назіральнікаў, якую я падзяляю, Беларусь можа атрымаць вялікую выгаду як ад свайго геаграфічнага становішча, так і ад саюза з Расіяй. Аднак на сённяшні дзень яшчэ трэба многае зрабіць для таго, каб мясцовыя прадпрыемствы былі гатовы да развіцця партнёрства з міжнароднымі прамысловымі групамі". Такая пазіцыя Клода Патэля — кансультанта па стратэгічнаму планаванню і арганізацыі, былога кіраўніка праекта па праблемах рэструктурызацыі прамысловасці Арганізацыі ААН па прамысловаму развіццю (ЮНІДА), які прыбыў з візітам у Мінск.

2 верасня пан Патэль быў прыняты прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Сяргеем Лінгам і абмеркаваў з ім шляхі далейшага рэфармавання беларускай сістэмы кіравання і прыватызацыі. "Хуткая прыватызацыя ўсіх прадпрыемстваў немагчымая, яна не дае ніякіх гарантый таго, што прамысловыя аб'екты будуць рэарганізаваны і стануць прыбытковымі". Гэтая вытрымка з рэкамендацый Клода Патэля ўрадам краін з пераходнай эканомікай цалкам супадае з тэзісамі цяперашняй эканамічнай праграмы беларускага ўрада.

Разам з тым, лічыць кіраўнік праекта ЮНІДА, рэструктурызацыя прамысловасці ў Беларусі ідзе вельмі марудна. І хоць час яшчэ не страчаны канчаткова, неабходна ўжо цяпер брацца за рэалізацыю буйнамаштабнай праграмы прамысловых рэформаў, уключаючы запуск механізма недзяржаўнага акцыяніравання, падрыхтоўку органаў "карпаратыўнага кіравання" і павышэнне якасці работы кіраўніцкіх каманд за кошт рэгулярных стажыровак за мяжой.

*МАГІЛЁЎСКІ УНІВЕРСІТЭТ*

## У ДОБРЫ ШЛЯХ

Дзень ведаў у Магілёве прайшоў асабліва ўрачыста. 1 верасня тут расчыніў дзверы новы універсітэт, які ўтвораны на базе педагагічнага інстытута імя А. Куляшова, адной са старэйшых навучальных устаноў краіны. Віншаванні педагагічнаму калектыву і студэнтам прыслаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. На ўрачыстым сходзе выкладчыкаў і студэнтаў вітаў міністр адукацыі рэспублікі Васіль Стражаў.

Цяпер у Магілёўскім універсітэце працуюць восем факультэтаў: фізіка-матэматычны, філалагічны, гістарычны, біялагічны, педагагічны, дашкольнага і фізічнага выхавання, давузаўскай падрыхтоўкі. Рыхтуюць тут і выкладчыкаў замежных моў — англійскай або нямецкай плюс беларуская.

Такія ж сумешчаныя групы ёсць і на гістарычным факультэце. У гэтым навучальным годзе адкрыты спецыяльнасці па вывучэнню англійскай або нямецкай моў і інфарматыкі, а ў наступным тут разлічваюць пачаць падрыхтоўку спецыялістаў французскай мовы і эканамістаў-менеджэраў мясцовага самакіравання. Плануецца таксама адкрыццё факультэта замежных моў.

*ЁСЦЬ У ПРАДПРЫМАЛЬНІКА МАРА*





За дзесяткі кіламетраў на аўтамабілях і падводах з'язджаюцца на вадзяны млын каля вёскі Асташына Навагрудскага раёна сяляне, каб змалоць збожжа. Некалькі гадоў назад млын рэстаўрыраваў мясцовы прадпрымальнік Пётр Сільвановіч. Адкапаў пад глеем вадзяную турбіну, асвоіў старадаўнюю тэхналогію вырабу жорнаў, пабудаваў плаціну на невялікай рэчцы Валоўка — і запрацаваў стары млын.

У ваколіцах знайшоў яшчэ некалькі месцаў, каб паставіць не толькі млын, але і малую электрастанцыю. На адным з іх нават пачаў работы: праклаў электралінію, якая да сёння забяспечвае энергіяй адзіны хутар, аднавіў дамбу, але з-за адсутнасці ўзаемаразумення з мясцовымі ўладамі работы спыніліся.

Сёння пры вострым недахопе той самай энергіі запаветнай марай Сільвановіча застаецца ажывіць забытыя вадзяныя млыны, а на самай высокай гары ў наваколлі Асташына паставіць ветраны — з ілюмінацыяй і чырвонымі сігнальнымі агнямі.

НА ЗДЫМКАХ: кіпіць работа на вадзяным млыне; на гэтым месцы марыць Сільвановіч паставіць ветраны млын.

*БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА*

## МЯЖА НЕПРАЗРЫСТАЯ

Паколькі інцыдэнт з журналістамі ГРТ у нашай рэспубліцы прыцягнуў увагу сусветнай грамадскасці да сітуацыі на беларуска-літоўскай мяжы, журналісты суседняй дзяржавы вырашылі даведацца ад беларускіх дыпламатаў, якія афіцыйна прадстаўляюць нашу рэспубліку ў Вільнюсе, аб тэрмінах разметкі яе на мясцовасці. На прэс-канферэнцыі, што адбылася ў беларускім дыпламатычным прадстаўніцтве ў Літве, саветнік пасольства Беларусі Васіль Жлутко адзначыў, што наша рэспубліка мае намер завяршыць дэмаркацыйныя работы прыкладна ў 2000 годзе. Такім чынам, к канцу тысячагоддзя ўсе ўзнікаючыя пытанні адносна празрыстасці нашага паўночнага рубяжа будуць зняты.

*АЗОНАВЫ СЛОЙ*

## АДЗНАЧАНЫ ХІСТАННІ

Працягваючы назіранні за станам атмасферы над тэрыторыяй рэспублікі, супрацоўнікі Нацыянальнага навукова-даследчага цэнтра маніторынгу азонасферы адзначаюць некаторыя хістанні ў яе саставе. За мінулы тыдзень паказчыкі азону склалі каля 295 адзінак Добсана, што адпавядае сярэднекліматычнай норме. А вось 30 і 31 жніўня ўтрыманне азону ў атмасферы пачало значна зніжацца і 1 верасня склала 263 адзінкі, што на 30 адзінак менш за сярэднекліматычную норму для пачатку месяца. Гэта розніца больш чым у два разы перавышае стандартнае адхіленне.

Як вядома, ад шчыльнасці азонавага слоя залежыць уплыў сонечнага ультрафіялетавага выпраменьвання на ўсё жывое.

*ПРАМЫСЛОВАСЦЬ*

За паўстагоддзя Кобрынскі кансервавы завод перапрацаваў тысячы тон гародніны і садавіны. Апошнім часам тут з'явіліся новыя назвы прадукцыі, яна добра рэалізуецца гандлёвым арганізацыям. Шчаўе зялёнае, варэнне чарнічнае і сунічнае, марынаваныя агуркі, ікра з кабачкоў, гароднінна-грыбная салянка — усё гэта карыстаецца вялікім попытам у пакупніка. Толькі ў гэтым годзе завод выпусціць 4,5 мільёна ўмоўных слоікаў смачнай прадукцыі. Шмат гародніны вырошчваецца ўласнай падсобнай гаспадаркай прадпрыемства.

НА ЗДЫМКУ: у кансервавым цэху завода.

*БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА*

## АБ'ЯВІЎ АБ СВАІМ ЗАКРЫЦЦІ

Кіраўніцтва Беларускага фонду Сораса і інстытута "Адкрытае грамадства" аб'явілі аб закрыцці Фонду Сораса ў Беларусі, спаслаўшыся на тое, што да такога рашэння іх прывялі дзеянні беларускіх уладаў.

Як паведаміў дырэктар вашынгтонскага офіса інстытута "Адкрытае грамадства" Джон Фокс, яго перагаворы з міністрам замежных спраў Беларусі Іванам Антановічам аб адмене штрафных санкцый у адносінах да БФС і размарожванні яго рахунку нічога не далі. З гэтай нагоды была распаўсюджана заява самога Джорджа Сораса, у якой ён заяўляе: "Фактычна Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у блоку посткамуністычных дзяржаў, дзе наш фонд зачынены". Ён не прымае абвінавачванні беларускіх уладаў у тым, што БФС меў дачыненне да апазіцыйнай палітычнай дзейнасці, і зазначае: "Хоць БФС сёння зачыняе свае дзверы, але не зачыняе іх з трэскам перад беларускім народам. Я спадзяюся знайсці спосабы падтрымаць тых людзей у Беларусі, чыя дзейнасць садзейнічае развіццю адкрытага грамадства".

*УЗНАГАРОДА*

## БРЭСЦКІ ХЛЕБ

У Еўропе славіцца не толькі брэсцкая гарэлка, але і брэсцкі хлеб.

З Францыі, дзе засядаў Міжнародны каардынацыйны камітэт "Партнёрства дзеля прагрэсу", дырэктар "Брэстхлебпрадукта" Галіна Вішняк вярнулася са спецыяльным знакам "Залаты арол". Так была ацэнена якасць брэсцкага хлеба і яго асартымент.

*ДЗЕНЬ ВЕДАЎ*

## ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС!



Плошча імя Якуба Коласа ў Мінску першавераснёвым ранкам поўнілася музыкай і дзіцячымі галасамі. Гэта ладзілася традыцыйнае свята паэзіі "Песняй вітаю я вас!" Як заўсёды, прысвячалася яно вялікаму песняру Беларусі. Апошнім часам прымяркоўваецца да Дня ведаў. Перад школьнай і студэнцкай моладдзю выступілі вядомыя людзі рэспублікі. Гаварылі яны пра неўміручасць Коласавага слова, пра сугучнасць яго нашым сённяшнім думкам і настроям.

Слухачоў прывітаў і павіншаваў з пачаткам навучальнага года галоўны спецыяліст па культуры адміністрацыі Савецкага раёна горада Мінска Уладзімір Шавялёў. Затым рэй павяла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

З увагай і пачцівасцю слухала юная публіка старшыню Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіля Зуёнка, народнага паэта рэспублікі Ніла Гілевіча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа, галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" Генрыха Далідовіча. Некаторыя ўдзельнікі свята ахвотна прыдбалі на памяць кнігі з аўтографамі аўтараў-выступоўцаў.

Гучала музыка, праводзіліся гульні і віктарыны "Ці ведаеце вы творчасць Якуба Коласа!"

# ЛЯЧЫЦЬ ДУШЫ РАЗАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

незразумелае, акрамя "Пані, змілуйся..." нічога не ведаюць. І тады мы распачалі падрыхтоўку... У выніку вы бачыце выдадзеныя па-беларуску "Імшал", "Рытуал", усе сакраманты, шлюбы, хросты, пахаванні, малітоўнікі, зараз рыхтуецца спеўнік. Вось кніжачка "Жывы ружанец", абсалютна новы малітоўнічак для дзяцей.

***— Цікава, хто дапамагае з перакладам?***

— Маем памочнікаў сярод беларускіх філолагаў, выкладчыкаў.

***— Тыражу хапае!***

— Не скажу. У краіне, па афіцыйнай статыстыцы, два з паловай мільёны католікаў. А беларускамоўных малітоўнікаў выдадзена толькі 25 тысяч.

***— Нешта перашкаджае!***

— З фінансамі цяжка.

***— Сярод вашых калег, каталіцкіх святароў, ці карыстаецца беларуская мова таксама пашанай? Можа, вы хутчэй выключэнне!***

— Мяркую, усе святары правільна ацэньваюць становішча. Нельга сабе ўявіць, каб у той жа Варшаве не вялося ніводнага набажэнства па-польску ці толькі ў адным касцёле, а ва ўсіх астатніх па-нямецку ці беларуску. Так што святары разумеюць: трэба. Але існуе аб'ектыўны бар'ер: мову за дзень не вывучыш. Да таго ж пакуль касцёльнай літаратуры па-беларуску не хапае. Такія кнігі, як я вам паказаў, на жаль, не кожны мае.

***— Як ставяцца вашыя прыхаджане да беларускамоўнага набажэнства! Вядома, нашыя грамадзяне ў масе сваёй увогуле рускамоўныя. Ці няма прэтэнзій!***

— Няма. І не можа быць. Людзі павінны слухаць святара, які ёсць пастыр, духоўны кіраўнік. Ён разумее, як весці. Калі ёсць неабходнасць, просяць людзі, тады святар вядзе набажэнства на польскай мове. Напрыклад, нядаўна да мяне прыязджаў святар з Вроцлава, які дрэнна чытае па-беларуску. Навошта мучыць яго і людзей?

Але я кажу толькі пра справы, што тычацца набажэнства. Кожны з нас чалавек са сваімі ўласнымі ўяўленнямі, вартасцямі і хібамі. Можа, хто калі і ў нашым касцёле бывае незадаволены, тады ў Мінску ёсць іншыя храмы — Катэдра, Святога Роха, Кальварыйскі.

***— Ці хапае чатырох храмаў, каб задаволіць патрэбы каталіцкіх вернікаў у сталіцы!***

— Абсалютна не. Тыя касцёлы, што ёсць, месцяцца ў цэнтры, таму вельмі-вельмі рэдка мы бачым у час набажэнства сем'і з малымі дзецьмі: не кожны рызыкне ехаць з калыскай з краю горада — як у народзе гавораць, "на перакладных".

У нас, можа, упершыню складзена своеасаблівая "духоўная карта". І што ж атрымліваецца? Пасля вайны Мінск меў няпоўных 430 тысяч насельніцтва. Сёння амаль 2 мільёны. Людзі з'ехаліся з усіх куткоў Беларусі, з сем'яў не толькі праваслаўных, але і каталіцкіх. А зараз да гэтых дзяцей ужо пераехалі старыя бацькі. Няхай сярод усіх будзе мільён праваслаўных, тысяч 400—500 наогул невяруючых, евангелістаў і іншых 3—5 тысяч. Тады хаця б 200—250 тысяч католікаў ёсць?

У нядзелю мы ў касцёле праводзім шэсць набажэнстваў, на якіх можа пабыць максімум 6—7 тысяч вернікаў. У іншых касцёлах столькі ж... Хаця не, не будзе — Катэдра яшчэ на рамонце, на Кальварыі — капліца, Рох таксама ўмяшчае толькі 500—700 чалавек... А куды пайсці астатнім, каб памаліцца?

Я скажу, і тыя 16 храмаў, што атрымалі праваслаўныя, — кропля ў моры ў параўнанні з патрэбным. Калі мы хочам мець здаровую нацыю, проста неабходна як мага хутчэй вяртацца да духоўных крыніц. Нярэдка кажуць: які шмат да вас прыходзіць людзей! Я з гэтага не радуюся. Бо бачу, як павінна было б быць, каб сапраўды магла адраджацца духоўнасць і еднасць народа ў агульным імкненні любові да Айчыны і да бліжняга...

***— Я так разумею, апошняе можна вызначыць як місію, што бярэ сёння на сябе касцёл!***

— Гэта вельмі ёмістае і важнае пытанне. На Беларусі, як і ў кожнай краіне, касцёл павінен дапамагаць людзям несці іх штодзённы побыт, падтрымліваць духоўна. Калі ў чалавека ўсё добра, усё ладзіцца, ён, можа, і не пойдзе ў храм. Але калі чалавек сутыкаецца з цяжкасцямі, калі яго напаткае гора, тады ён непазбежна адчувае патрэбу дапамогі душы і духу. Аднак, не скажу, што ў касцёл ідуць толькі нямоглыя, хворыя, і г. д. Прыходзіць моладзь, якая рыхтуецца да шлюбу. І гэта таксама вельмі важна. Чаму ў нас амаль палова сем'яў распадаецца? Ды таму, што не гатовыя несці адказнасць і выконваць абавязкі. Для многіх маладых існуе толькі адно: "я хачу". Гэта ўжо амаль катастрофа. Не толькі для католікаў, таксама для праваслаўных, увогуле для ўсіх

Яшчэ адна вострая праблема — дзеці. Як лічаць многія бацькі: садзік будзе выхоўваць, школа, войска... А ў сапраўднасці — ніхто. Бацька, маці глядзяць, каб сын, дачка былі апранутыя, здаровенькія — і я заўсёды кажу: дай, Божа! Але ці перадаяце вы сваім дзецям духоўны скарб? Матэрыяльнае — нядоўгае, а духоўнае на ўсё жыццё — і ў багацці, і ў беднасці.

Так, у храм ідуць, як да ўрача ў шпіталь, нярэдка са словамі: нам ніхто не дапаможа, не параіць — толькі вы. Прыходзяць з горам, крыўдамі, прыходзяць тыя, што ўжо не маюць жадання жыць... Ніхто не мае такога ўплыву, як святар.

***— Атрымліваецца, часцей за ўсё ідуць да вас людзі з горам!***

— Амаль толькі з горам. Мне падаецца, што нашы людзі ўвогуле духоўна няшчасныя. Не глядзіце, што яны нядрэнна апранутыя, увесь час некуды спяшаюцца. Калі паглядзець на псіхалагічнае аблічча — яны змучаныя, не маюць радасці. Бывае кажаш чалавеку з усмешкай: "Добры дзень!", а ён шарахаецца, не разумее, чаму я яму так пажадаў. Накапілася шмат нядобразычлівасці. Гэта гаворыць пра тое, што душа хворая.

Пакуль занадта мала мы, святары, незалежна — праваслаўныя ці каталіцкія, маем кантактаў з людзьмі. Вялікія магчымасці дапамагчы ў гэтым мае тэлебачанне, але тут пакуль нешта не атрымліваецца. Вельмі шкада.

***— А як складваюцца ў вас адносіны з уладамі!***

— Увогуле, нармальна. Здараецца, часам нас не разумеюць, часам мы. Але менавіта дзякуючы тым умовам, што склаліся ў 90-я гады, адкрыліся касцёлы, вернікі атрымалі магчымасць сустракацца са святарамі. І цяпер на Беларусі прыкладна 200 каталіцкіх святароў, з іх 120 — з Польшчы.

***— Была інфармацыя, што некаторых высылалі з краіны...***

— Ведаеце, самы кампетэнтны, каб тут адказаць, — кардынал. Ён вёў заўсёды перагаворы з уладамі. Але маё меркаванне — гэта няправільна. Дасць Бог, калі ў нас у Гародні ў семінарыі будзе больш і больш мясцовых сыноў, якія ідуць на святара, тады адпадзе і неабходнасць у дапамозе з іншых краін.

***— Урэшце, касцёл сёння нярэдка абвінавачваюць у паланізацыі мясцовага насельніцтва.***

— Тут адным словам не патлумачыш. Хаця зноў лічу: за Беларусь мае права адказваць толькі кардынал ці біскуп, не ксёндз. Але ў мяне, канешне, ёсць асабістае меркаванне.

Ксяндзы, што прыехалі з Польшчы, — пэўна, палякі. Яны не ведаюць беларускую мову, хаця дзеля справядлівасці трэба сказаць: і мясцовыя не ўсе добра з ёю знаёмыя.

І вось прыязджае такі святар у парафію, дзе наогул не было ніякіх набажэнстваў, а такіх месцаў на Беларусі хапае. Памятаеце, як Хрушчоў казаў пра апошняга папа, якога можна будзе ўбачыць толькі ў музеі? Такія рэчы бясследна не праходзяць. Дзесяцігоддзямі ўсё было скіравана на знішчэнне святарства. На Беларусі засталіся святары амаль толькі старэнькія, якія адседзелі мінімум па 5—6 год у турмах ці лагерах. Усе адбылі... Нават і па 10-15-25 гадоў.

***— Вы маеце на ўвазе каталіцкіх святароў!***

— Так, але падобная доля напаткала і праваслаўных служыцеляў царквы.

Вернемся да нашага пытання. Калі такі ледзь жывы святар вяртаўся на радзіму, ён, канешне, вёў набажэнствы традыцыйна, па-польску — якія яму ўжо там навацыі адужаць. А людзі радаваліся хоць такому. Бо калі б і гэтага не было, тады ў нас усе касцёлы так і пазаставаліся б клубамі ды рэстаранамі.

Дык вось, сённяшнія святары, якія прыехалі з Польшчы, не ведаючы мовы, пэўна прадоўжылі тую традыцыю, што існавала ў касцёлах і дагэтуль. Некаторы час такі ксёндз проста вымушаны на просьбу весці службу на сваёй мове адказваць — не ведаю, вучуся. Становішча ўскладняецца яшчэ і тым, што вучыцца вельмі няпроста. Як я ўжо казаў, літаратуры не хапае, спецыяльных навучальных устаноў раней не існавала.

Праўда, тут, можа, трэба было б (але за гэта зноў-такі мае права адказваць толькі сам кардынал) браць дапамогу і з іншых краін, напрыклад, з Германіі, Іспаніі, Італіі, Францыі... Так, як гэта робіцца ў Расіі. Калі б якая колькасць святароў прыехала з іншых месцаў, магчыма, не сталі б столькі казаць пра паланізацыю. Хаця, урэшце, і пастыр з Германіі, не ведаючы беларускай, усё роўна не распачаў бы набажэнства па-нямецку. Хутчэй зноў-такі звярнуўся б да польскай мовы, як найбольш блізкай (з магчымага) да мовы тутэйшых вернікаў. Прынамсі на нейкім пераходным этапе.

Аднак, калі быць да канца шчырым, — так, там-сям знойдзецца адзін-другі святар, што будзе выступаць па-свойму. Такія выпадкі толькі спрыяюць узнікненню непаразуменняў, ад якіх трасе, нібы на вулкане.

***— А як складваюцца вашы асабістыя адносіны з калегамі з праваслаўнай царквы! Кожны плыве сваім паралельным курсам!***

— І ў сваёй лодцы?.. Не. Я зыходжу з таго, што ўсе мы робім агульную справу — вяртаем людзей да Бога, Евангельскіх запаведзяў, сапраўднага духоўнага жыцця. Мы маем, канешне, адносіны паміж парафіямі і тут, у Мінску, і, як ведаю ад іншых святароў, у раёнах таксама. Не выключаю, дзе-нідзе можна сустрэць выпадкі нядобрасуседства. Але не яны робяць агульнае "надвор'е". Я, напрыклад, маю нядрэнныя кантакты са святарамі з Кафедральнага сабора ў Мінску. Гэта і мая асабістая пазіцыя, і, урэшце, службовая неабходнасць. Скажам, калі бяруць шлюб людзі рознай веры, патрабуецца выпісаць спецыяльны дакумент, дазвол адпаведнага святара. Трэба супрацоўнічаць, паважаць адзін аднаго. Так будзе значна лепш усім.

***— Мяркую, вы імкнецеся трымацца па-за палітыкай!***

— Мне падаецца, рэлігія — сама па сабе ўжо палітыка, бо рэлігія — гэта вучэнне, пэўная ідэалогія, накіраванасць, якая мае ўплыў. Калі кажуць: рэлігія аддзелена ад дзяржавы — на рэальнай справе такога проста не можа быць. Рэлігія, хрысціянства заўсёды з людзьмі, як душа і цела. Але яна не шкодзіць, яна падтрымлівае, лечыць.

***— Айцец Уладзіслаў, мы ведаем, што Чырвоны касцёл — не проста выдатны, прыгожы храм. Гэта яшчэ і месца, дзе жывуць музы высокага мастацтва. Пэўна, не абышлося без вашага непасрэднага ўмяшання!***

— Сапраўды, тут адбілася маё асабістае адчуванне, стан душы, склад характару. Мы шмат працуем для людзей, для Бога. Але мне ўвесь час здаецца: можна было б рабіць больш таго, што ёсць, асабіста для мяне замала. У сэнсе духоўным. Ачышчэнне нашых душ немагчымае без удзелу культуры — музыкі, спеваў. Таму мы ў касцёле святых Сымона і Алены, акрамя набажэнстваў, імкнемся арганізоўваць выставы, сімпозіумы, канцэрты духоўнай музыкі. І маем на тое вельмі прыязныя водгукі. Людзі ідуць, яны задаволены. Цяпер у нас рыхтуецца вялікі Сінод, першы на Беларусі, 29 верасня ў храме адбудзецца першая сесія.

Акрамя таго, мы рыхтуемся яшчэ да адной важнай падзеі: 12 кастрычніка спаўняецца 150 год з дня нараджэння Эдуарда Вайняловіча, фундатара Чырвонага касцёла. Шчыра запрашаем узяць удзел у набажэнствах і прымеркаваных да гэтага канцэртах духоўнай музыкі.

У касцёле зарэгістраваны два тэатры. "Зьніч" — тэатр аднаго акцёра, які вядзе Галіна Дзягілева, вельмі папулярны ў моладзі. Тэатр "Анёл" — з універсітэта культуры, разлічаны на ўдзел моладзі, дзяцей. А цяпер мы ўвогуле распрацоўваем тэатральную залу на 200 месцаў са сцэнай, вестыбюлем. Там будзе таксама праходзіць нядзельная школа, працаваць відэазала, змогуць збірацца людзі, каб паразмаўляць, павіншаваць, напрыклад, з днём нараджэння. Я б нават хацеў, з Божай дапамогай, адкрыць своеасаблівы клуб інтэлігенцыі, дзе будуць ладзіцца разнастайныя вечарыны. А калі мы ўсё ж здолеем займець арган, то атрымаецца проста цудоўна. Зараз наконт аргана ёсць дамоўленасць у Боне, але нам патрэбна матэрыяльная дапамога, бо інструмент каштуе вялікіх грошай.

Касцёл святых Сымона і Алены праводзіць працу з беднымі людзьмі, арганізоўвае для іх бясплатныя штодзённыя абеды (цяпер такіх 100 чалавек у сталовай № 104 г. Мінска), калі існуе магчымасць, дапамагае лекамі, адзеннем. Людзі павінны атрымліваць у касцёле самую розную падтрымку. У гэтым і ёсць галоўная місія храма і святара.

***— Я шчыра дзякую вам за гутарку ад свайго імя і ад імя нашых чытачоў.***

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

***З БРЭСТЧЫНЫ***

## БЕСПРАЦОЎНЫХ СТАЛА МЕНШ

У Брэсцкай вобласці працягваецца работа па выкананню Дзяржаўнай праграмы занятасці насельніцтва на 1997 год.

Як паведамілі ва Упраўленні брэсцкай абласной службы занятасці, у аддзеле рынку працы, арганізацыі працаўладкавання і работы цэнтра, на 1 жніўня бягучага года ў вобласці на ўліку было 16 тысяч 597 беспрацоўных, 7 тысяч 592 з іх атрымліваюць дзяржаўную дапамогу.

За перыяд са студзеня па жнівень гэтага года ў службы занятасці вобласці звярнулася 26 тысяч 713 чалавек, 22 тысячы 978 з якіх афіцыйна прызнаны беспрацоўнымі. 19 тысяч 127 беспрацоўных за гэты час былі працаўладкаваны.

На сённяшні дзень на Брэстчыне ёсць 3 тысячы 233 свабодныя працоўныя месцы (2 тысячы 749 з іх на рабочыя спецыяльнасці). У дэфіцыце — работнікі "традыцыйных" прафесій. На рынку працы не хапае муляраў, цесляроў, токараў, трактарыстаў, апаратараў машыннага даення. А найбольшы попыт на прафесію кандуктара. Асабліва адчуваецца недахоп работнікаў у буйных гарадах: 1 тысяча 445 свабодных працоўных месцаў у Брэсце, 386 — у Баранавічах.

Гледзячы на лічбы, можна канстатаваць, што ў вобласці назіраецца тэндэнцыя да прыпынення росту беспрацоўя і нават некаторае яго зніжэнне. Так, на сённяшні дзень узровень беспрацоўных складае каля 2 працэнтаў ад ліку эканамічна актыўнага насельніцтва. У жніўні ж мінулага года гэта лічба раўнялася 2,69 працэнта.

Хоць і нязначнае, але ўсё ж паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне ў цэлым, нармалізацыя работы многіх прадпрыемстваў — усё гэта аказала станоўчы ўплыў на зніжэнне ўзроўню беспрацоўя. Яно адбылося дзякуючы ў многім і той рабоце, што вядзецца цэнтрамі занятасці. Сёлета ў вобласці прайшло пяць рэгіянальных кірмашоў вакансій, у многіх рэгіёнах былі арганізаваны Дні выпускніка і інфармацыйныя дні службы занятасці. Праграмай занятасці прадугледжваецца таксама накіраванне на прафесійную падрыхтоўку, перападрыхтоўку і курсы па павышэнню кваліфікацыі за гэты год 3 тысяч 600 беспрацоўных.

Стараюцца тут дапамагчы і самапрацаўладкаванню, у прыватнасці, пачынаючым прадпрымальнікам. У шэрагу гарадоў і раёнаў рашэннямі выканкомаў прадугледжана паніжэнне ці поўнае вызваленне ад платы за рэгістрацыю ў якасці прадпрымальніка беспрацоўных, што вырашылі адкрыць сваю справу. На 1 жніўня 266 беспрацоўным на гэтыя мэты былі выдзелены субсідыі агульнай сумай 784,5 мільёна рублёў.

І яшчэ адзін момант з працы службаў занятасці. На гэты год запланавана правядзенне аплачваемых грамадскіх работ з удзелам у іх 14 тысяч чалавек, у тым ліку 8,5 тысячы беспрацоўных. На правядзенне такіх работ гарадскімі і раённымі цэнтрамі занятасці заключана 402 дагаворы з прадпрыемствамі, арганізацыямі, саўгасамі і калгасамі. За мінулы час у грамадскіх работах ужо прынялі ўдзел 11 тысяч 693 чалавекі, большая частка з якіх — беспрацоўныя.

Як бачна, службы занятасці робяць сёння ўсё магчымае, каб прыпыніць рост беспрацоўя ў вобласці. Пакуль што ім гэта ўдаецца. Толькі вось ці надоўга?

**Святлана ШАБЛІНСКАЯ.**

БЕЛАРУСЫ ЗА МЯЖОЙ

# У БЕЛЬГІІ ЖЫВЕ СЛОНІМСКІ ФАРМАЦЭЎТ



Фармацэўт-гамеапат Лаўрэн Клыбік жыве ў Бельгіі. У Бруселі ён трымае сваю ўласную прэстыжную аптэку.

Нарадзіўся наш зямляк у вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна ў 1928 годзе. У час вайны немцы вывезлі яго ў Германію. Жывучы на Захадзе, Лаўрэн Клыбік скончыў вячэрнія курсы лонданскага "Фінчлей калежа" і Лювенскі універсітэт у Бельгіі. Спачатку працаваў кіраўніком аптэкі ў Бруселі, а пасля ў Мехеліне. Маючы добрую практыку, у 1966 годзе адкрыў сваю ўласную аптэку. Добры кантакт з кліентамі, карысныя парады аптэкара пачалі прыцягваць людзей. Ён нават сам стварыў некалькі прэпаратаў, якія да сённяшніх дзён карыстаюцца попытам не толькі ў Бельгіі, але і ў іншых краінах.

У 1977 годзе наш зямляк зацікавіўся гамеапатыяй (гамеапатыя — слова грэчаскага паходжання, складаецца з двух слоў: homoios — падобны, pathos — хвароба, што азначае "лячыць падобным"), паступіў на вячэрнія курсы гамеапатычнай школы ў Бруселі, а праз чатыры гады адкрыў ужо сваю лабараторыю.

Пасля абароны навуковай працы "Кава і яе ўздзеянне на чалавечы арганізм" Лаўрэн Клыбік быў прыняты ў Асацыяцыю гамеапатаў Бельгіі. Яго праца выклікала вялікую цікавасць у многіх краінах Еўропы. Яна была апублікавана ў медыцынскіх часопісах Францыі, Бельгіі і Беларусі. Адно з апошніх яго навуковых даследаванняў "Уплыў радыеактыўнасці на жывыя арганізмы" выйшла з друку на французскай мове ў Бруселі ў 1995 годзе.

Амаль штогод наш зямляк бывае на Бацькаўшчыне. Ён наладжвае супрацоўніцтва з беларускімі медыкамі для апрабавання гамеапатычных сродкаў супраць хвароб, выкліканых радыяцыяй на тэрыторыі Беларусі, якая забруджана радыенуклідамі ў выніку чарнобыльскай катастрофы. "Хоць усё маё свядомае жыццё праходзіць далёка ад Беларусі, — гаворыць спадар Лаўрэн, — я заўсёды думаю, як дапамагчы людзям на бацькаўшчыне". А нядаўна слонімскі фармацэўт з Бельгіі перадаў для музея "Беларусы ў свеце", які існуе ў Мінску ў Цэнтры імя Ф. Скарыны, некалькі каштоўных рэліквій. Гэта вышыты беларускім арнаментам касцюм, у якім Лаўрэн Клыбік выступаў у час вучобы ў Лювенскім універсітэце, дакументы, фатаграфіі 40-х—50-х гадоў, звязаныя з жыццём і дзейнасцю беларускай эміграцыі...

Да гэтых радкоў пра нашага фармацэўта ў Бельгіі хочацца дадаць, што Лаўрэн Клыбік жанаты з бельгійкаю Жанін Сакрэ. Яны маюць дзвюх дачок Сафію і Надзею, а таксама ўнукаў — Бенжаміна і Валянціну.

Сёлета Лаўрэн Клыбік прымаў удзел у Другім з'ездзе беларусаў свету, наведаў сваякоў на Слонімшчыне, сустрэўся з журналістамі "Газеты Слонімскай".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ПРАЦАВАЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ

Вядомы вучоны-бібліёграф, грамадскі дзеяч Аляксандр Ружанец-Ружанцоў (псеўд. А. Смалянец) нарадзіўся 12 жніўня 1893 года ў Вязьме. Там скончыў гімназію, а ў 1911 ён паступіў на гістарычна-філасофскі факультэт Маскоўскага універсітэта, дзе вывучаў асновы бібліяграфіі. Восенню ж 1914 перайшоў у Аляксееўскую вайсковую школу.

Яшчэ з дзіцячых гадоў у А. Ружанец-Ружанцова абудзіліся цікавасць, любоў да беларускай зямлі. Упершыню пабываў ён у родных мясцінах у 1914—1918 гадах, калі служыў на нямецкім фронце. Тады і пазнаёміўся з беларусамі-аднапалчанамі.

У час першай сусветнай вайны быў паранены, у 1919—1920 гадах працягваў службу ў войску. Маёр А. Ружанец-Ружанцоў уваходзіў у склад беларускага батальёна, камандаваў часцю Літоўскай арміі. За поспехі ў змаганні з войскамі бальшавікоў і польскіх захопнікаў атрымаў літоўскі ордэн "Крыж Пагоні". У 1920-м, знаходзячыся на фронце, рэдагаваў беларускі салдацкі часопіс "Варта Бацькаўшчыны".



Служыў у Літоўскім войску А. Ружанец-Ружанцоў да 1940 года. Быў пажарным інспектарам, звольніўся ў запас у званні падпалкоўніка.

У 1921—1924 гадах падтрымліваў сувязь з урадам БНР, практычна з'яўляючыся беларускім консулам у Коўне (цяперашні Каўнас). Дасылаў свае артыкулы і рэцэнзіі ў часопісы "Крывіч", "Вольны сцяг". Пісаў па-беларуску вершы, якія ў 1922—1926 гадах спрабаваў друкаваць у віленскіх выданнях "Крыніца", "Беларускія ведамасці". У літоўскім вайсковым музеі Коўна дапамог заснаваць аддзел беларускіх вайсковых часцей, працаваў у музеі наглядчыкам.

А. Ружанец-Ружанцоў пастаянна кантактаваў з беларускімі асяродкамі Мінска, Вільні, а ў 1930-я гады, вылучаючыся сярод паплечнікаў працавітасцю, энтузіязмам, ужо стаў неад'емнай часткай і літоўскага культурнага жыцця Коўна.

У 1921—1940 гадах ён быў у Коўне дырэктарам Цэнтральнай вайсковай бібліятэкі (значна ўзбагаціўшы яе кніжны фонд), у 1928 — кіраўніком спраў Бібліяграфічнага інстытута Літвы... Выконваў таксама абавязкі тэхнічнага рэдактара бібліяграфічнага часопіса "Весткі бібліяграфіі". У 1931-м удзельнічаў у заснаванні Таварыства бібліятэкараў Літвы.

Доўгі час займаўся ўкладаннем бібліяграфіі Вялікага Княства Літоўскага: шмат працаваў у архіве ковенскай гарадской думы. У гэты перыяд выдаў каля 20 кніг і брашур, сярод якіх быў і вялікі, больш як на 1 000 старонак каталог Цэнтральнай вайсковай бібліятэкі.

З пачаткам другой сусветнай вайны А. Ружанец-Ружанцоў апынуўся ў Вільні, дзе ўладкаваўся на працу ў Беларускі нацыянальны камітэт. Адначасова выступаў з рэфератамі ў Беларускім навуковым таварыстве, сябрам якога быў. У 1944—1945 гадах разам з генерал-маёрам Езавітавым працаваў у штабе беларускіх вайсковых аддзелаў.

У час бамбардзіроўкі горада, у красавіку 1945-га, атрымаў цяжкую кантузію. Адпушчаны на двухмесячную пабыўку, А. Ружанец-Ружанцоў выехаў з сям'ёй у Германію (Вюртэмберг). Там жыў да канца вайны, а потым перабраўся ў Баварыю, у лагер для перамешчаных асоб. Адразу ўзяўся за арганізацыю Літоўскай службы бібліяграфіі, распачаў збор літоўскіх выданняў — да 1950 года яны захоўваліся ў Швейцарыі ў Архіве Літвы, цяпер знаходзяцца ў Чыкага (ЗША), у Архіве літоўцаў свету. З 1945 года (паводле іншых крыніц, 1948) ён стаў рэдагаваць і выдаваць часопіс замежнай літоўскай бібліяграфіі пад назвай "Кніжная паліца". Выдаў некалькі брашур па бібліяграфіі на беларускай мове. З рознымі паведамленнямі пра беларускае культурнае жыццё друкаваўся ў іншых літоўскіх часопісах, пераклаў з беларускай мовы на літоўскую кнігі В. Ластоўскага "Бяздоннае багацце" і Ю. Віцьбіча "Францішак Скарына".

У 1949 годзе А. Ружанец-Ружанцоў выехаў у ЗША. Працуючы ў харчовай краме, па вечарах па-ранейшаму займаўся... укладаннем бібліяграфій. Прымаў удзел у падрыхтоўцы да выхаду ў свет 1-га тома Літоўскай энцыклапедыі: апрацоўваў для яго беларусазнаўчы матэрыял. На запыт Беларускага інстытута навукі і мастацтва напісаў успаміны аб беларускім культурным жыцці і грамадскай працы ў Коўне. Яны змяшчаюць многа каштоўнай інфармацыі пра дзейнасць у Літве ўрада БНР, яго вайсковыя адзінкі, выдавецкую працу беларускай меншасці і — што асабліва важна — пра найбольш плённы перыяд жыцця В. Ластоўскага (да пераезду славутага дзеяча ў Мінск).

Памёр А. Ружанец-Ружанцоў 23 ліпеня 1966 года ў Дэнвілі (штат Ілінойс, ЗША). Творчая спадчына выдатнага сына Беларусі, які так шмат зрабіў не толькі для свайго, але і братняга літоўскага народа, чакае руплівага даследчыка...

**Святлана ЯВАР.**

*НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА*

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Вось яшчэ адна версія гэтай легенды, паэтычна апрацаваная Максімам Танкам:

**Ля вогнішч начлежных і ля невадоў,**
**Чуў гэту легенду я часта.**
**Ад гатаўскіх сосен і ад рыбакоў**
**Пра Нарач, Баторына, Мястра...**

На месцы азёраў некалі быў бор. У доме лесніка жыла яго дачка — прыгажуня Галіна. Многа ў яе перабывала сватоў, але ўсе атрымлівалі адмову, таму што любіла Галіна Васілька — моцнага і добрага хлопца, майстра на ўсе рукі. Васілёк падарыў ёй чароўнае люстэрка, якое зрабіў з "рачных пясчынак, блакіту нябёсаў". Аднойчы, вяртаючыся з палявання, убачыў Галіну ўсемагутны магнат Барына. Ноччу яго слугі напалі на дом лесніка і павезлі Галіну ў палац. Даведаўшы пра тое, Васілёк таксама прабраўся туды і вызваліў Галіну. Аднак па дарозе дагнала іх пагоня. Тады Васілёк адправіў дзяўчыну дамоў, а сам пастараўся збіць панскіх слуг з дарогі. Але загінуў і сам. Доўга чакала Васілька Галіна. Нарэшце вырашыла зірнуць у чароўнае люстэрка, каб даведацца пра свой лёс. Выпала прарочае люстэрка з рук і разбілася, а там, дзе рассыпаліся асколкі, зашумелі хвалямі азёры і ўзляцела над імі белая чайка.

Прыгожыя легенды. На самай жа справе ўзнікла возера некалькі тысячагоддзяў назад, калі адступаў апошні ледавік. Вада запаўняла нізіны, равы паміж марэннымі ўваламі. На шляху ледавіка на поўнач паўстала Свянцянская града. Утварылася вялікая водная прастора, з якой пасля паніжэння ўзроўню вады ўтварыліся асобныя вадаёмы.

Захаваць чысціню і празрыстаць возеру ўдаецца дзякуючы шэрагу фактараў. Нарач адносіцца да ліку слабапраточных. Вада трапляе ў яе з Мястры праз кароткую пратоку Скема. Акрамя таго, у Нарач упадае 17 ручаёў з высокіх слаба разараных схілаў. Асноўнае паступленне вады ў возера адбываецца за кошт атмасферных ападкаў (60 працэнтаў) і з азёраў Баторына, Мястра, якія служаць для яго буфернай зонай, затрымліваючы забруджваючыя рэчывы. Вялікую ролю ў ачышчэнні возера адыгрывае таксама яго плошча (80 квадратных кіламетраў), значная глыбіня (24 метры) і выцягнутасць (13 кіламетраў) у напрамку асноўных вятроў, што стварае ўмовы для інтэнсіўнага перамешвання вады. Але з 1963 года над Нараччу навісла пагроза: яе берагі пачалі ўзмоцнена забудоўвацца ведамаснымі і прафсаюзнымі здраўніцамі. Актывізавалася гаспадарчая дзейнасць. Усё гэта прывяло да таго, што ў 1981 годзе Савет Міністраў рэспублікі быў вымушаны прыняць пастанову "Аб схеме комплекснага выкарыстання і аховы водных і зямельных рэсурсаў басейна Нарач". Пастанова прадугледжвала комплекс мер па разумнаму выкарыстанню возера. Аднак ні адзін з прынятых пунктаў не быў выкананы поўнасцю. Таму ў студзені 1988 года Савет Міністраў рэспублікі палічыў неабходным яшчэ раз разгледзець пытанне пра захаванне унікальнай прыроды Нарачы. Паступова наладжваецца неабходны кантроль. З берага ўбіраюцца нядобраўпарадкаваныя лагеры, турбазы, некаторыя фермы, але да поўнага супакаення пакуль далёка. У возеры засталося так мала рыбы, што нават узнікла пытанне аб мэтазгоднасці Нарачанскага рыбакамбіната, які амаль поўнасцю перайшоў на перапрацоўку прывазной сыравіны. Хаця яшчэ з даўніх часоў мясцовае насельніцтва, што жыве на бедных пясчаных глебах, займалася рыбнай лоўляй. Нарач заўжды дапамагала людзям пракарміцца. Як легенду расказваюць мясцовыя жыхары пра падзею, што сапраўды мела месца ў 1847 годзе. Тады ў нарачанскім краі здарыўся вялікі няўрод. Людзі слабелі, пухлі з голаду. Але раптоўна здарыўся цуд: аднойчы ўзнялася страшная бура. Усхвалявалася Нарач і стала выкідваць на плёсы дробную рыбу, што называецца ў гэтых месцах уклейкай. На наступны дзень усё паўтарылася. Толькі рыбу возера выкідвала ўжо на другі бок. Так працягвалася дзесяць дзён — Нарач па чарзе адорвала то адзін, то другі бераг. Сяляне збіралі рыбу, сушылі пра запас, мянялі на хлеб і неяк выжылі. Возера выручыла з бяды. Пра гэтую легенду часта ўспаміналі ў 1935 годзе рыбакі, якія паўсталі, калі іх спрабавалі прымусіць плаціць за выкарыстанне Нарачы арандатару памешчыку Яблонскаму.

Гістарычныя падзеі і шматлікія легенды, якія ў дзяцінстве чуў Уладзімір Дубоўка, ляглі ў аснову паэмы "Браніслава". У ёй аўтар расказвае пра мядзельскага старасту Антона Кошыца, які жыў у другой палове XVIII стагоддзя. Кошыц быў пахмурным, жорсткім чалавекам, нярэдка здзекаваўся з мясцовых жыхароў. Усяго ў яго было ў дастатку, вось толькі дзяцей, наследнікаў Бог не даў. Маліць Усявышняга аб дзіцяці хадзіў ён у Кіеўскую лаўру і нават у Ерусалім. Будучы ў Рыме, Антон даў зарок, калі ў яго з'явіцца сын, ён пабудуе ў Мядзелі касцёл.

Неўзабаве жонка старасты нарадзіла хлопчыка. Усімі будаўнічымі работамі кіраваў архітэктар з Італіі. Ім была скапіравана вядомая базіліка святога Пятра ў Рыме. Унутры касцёл быў распісаны сцэнамі са Страшнага суда.

Кошыцаў сын рос хваравітым. Дзень і ноч за дзіцем даглядала маладая і вельмі прыгожая дзяўчына Браніслава. Аднойчы змучаная бяссонніцай дзяўчына гуляла з хлопчыкам на руках па высокім беразе Нарачы, паслізнулася і ўпала ў ваду. Як ні старалася Браніслава выратаваць хлопчыка, але не змагла. Сама з цяжкасцю выбралася на бераг. Старaста палічыў, што Браніслава зрабіла гэта спецыяльна, і прыдумаў для яе жудасную смерць. На ўзгорку каля Мядзеля замуравалі дзяўчыну ў каменны слуп...

Яшчэ ў 1915 годзе стаяў гэты страшны слуп за Мядзелем пры павароце на вёску Сабалеўшчына. У час першай сусветнай вайны, калі рускія салдаты бралі цэглу на печкі для зямлянак, разабралі слуп — на дне яго знайшлі чалавечыя косці.

* * *

Ну, а якія перспектывы ў Нарачы?

Нарачанскі курорт мяркуецца развіваць як Нацыянальны парк рэспублікі з санаторна-аздараўленчымі ўстановамі на 33 тысячы чалавек.

Утвораны новыя заказнікі: "Мядзельскі", "Пасынкі", "Швакшты".

На паўночна-заходнім і заходнім берагах ствараецца санаторная зона. Тут прадугледжваецца будаўніцтва санаторыяў і пансіянатаў, аб'яднаных у тры комплексы — "Нарач", "Урлікі", "Сцепенева".

У раёне лагера "Зубраня" мяркуецца пабудаваць дзіцячы комплекс на 4 300 месцаў.

На паўночных берагах Нарачы і Мястры праектуецца агульнааздараўленчая зона. Тут узнімуцца тры комплексы пансіянатаў і гасцініц на тры тысячы месцаў. Паблізу абеліска партызанам намячаецца стварыць культурнабытавы цэнтр, разбіць парк, пабудаваць рэспубліканскі яхт-клуб.

Безумоўна, усё гэта дазволіць значна большай колькасці адпачываючых наведаць "беларускую жамчужыну", але паўстае пытанне: "Ці справіцца яна з такім патокам? Ці застанецца Нарач — самым чыстым і самым прыцягальным возерам у краі?"

**Юрый АКУДОВІЧ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 28—36.**

## ПАСЛЯ ДРУГОГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

**У канцы ліпеня адбыўся ў Мінску Другі з'езд беларусаў свету. Праходзіў ён у складанай абстаноўцы, па-рознаму быў успрыняты дэлегатамі і гасцямі. Сваімі думкамі яны і дзеляцца ў пісьмах, якія прысылаюць у "Голас Радзімы".**

# НЕ ДАПУСЦІЦЬ РАЗВАЛЬВАННЯ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!

Час бяжыць імкліва. Адышоў у гісторыю Другі з'езд беларусаў свету, які ладзіла Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў сталіцы Беларусі 26—27 ліпеня. І ўсе гэтыя дні мяне не пакідае пачуццё нечага страчанага для справы беларускага адраджэння. Усё пазнаецца ў параўнанні. І калі я параўноўваю Першы з'езд, які адбыўся ў пачатку ліпеня 1993 года, і другі — у канцы ліпеня года сёлетняга, то параўнанне гэтае не на карысць апошняга, які да таго ж праходзіў амаль паўлегальна: нідзе ў сталіцы Беларусі на відным месцы не красавалася ніводнага плаката ці транспаранта, які б паведамляў аб такой важнай падзеі ў жыцці беларускай сталіцы. Не было іх і на будынку Тэатра музычнай камедыі, дзе й праходзіў з'езд. Як кажуць, святочнага настрою прыязджаючым на з'езд дэлегатам з-за межаў краіны гэтая з'ява не надавала, хутчэй, наадварот, прымушала задумацца: што ж дзеецца, чаму так?

25 ліпеня мне давялося гадзін 10 правесці ў будынку па Рэвалюцыйнай вуліцы, 15, дзе месціцца ўправа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Трэба было бачыць на ўласныя вочы тую разгубленасць і нервовасць, якія панавалі тут. Нехта ноччу пашкодзіў сейф, дзе ляжалі важныя паперы, каштоўныя рэчы, і гэты сейф ніяк не адкрываўся. З тэатра паведамілі, што "пажарнікі забаранілі праводзіць з'езд" і г. д. і д. п. Як кажуць, можна ад усяго гэтага звар'яцець! А тут увесь час званкі ад прыбываючых ці проста цікаўных мінчукоў з адным пытаннем: "Дзе будзе праходзіць з'езд?" Нейкім усё ж чынам удалося справу ўлагодзіць і праводзіць з'езд у Тэатры музычнай камедыі...

...На з'езд у Мінск прыбыло крыху больш за 150 дэлегатаў з краін Балтыі, блізкага замежжа і Польшчы, некалькі чалавек прыехалі з Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі і Бельгіі. Не густа зноў жа ў параўнанні са з'ездам Першым! Тады толькі з-за акіяна прыбыло на з'езд каля 200 дэлегатаў! Другі ж з'езд байкатавалі беларускія дыяспары ЗША, Аўстраліі, Канады, Вялікабрытаніі і г. д. І ўсё ж амаль тысячная глядзельная зала тэатра была цалкам запоўнена, ніводнага вольнага месца: звыш 800 гасцей прыехалі на з'езд з Беларусі, большасць з іх была з самой сталіцы, і амаль усе яны былі прыхільнікамі адной партыі — БНФ. Пытанне рубам: навошта было запаўняць залу прадстаўнікамі ці прыхільнікамі нейкай партыі?! Згуртаванне беларусаў свету — арганізацыя непартыйная, таму што ў яе шэрагах знаходзяцца людзі, якія не належаць ні да БНФ, ні да СС "Белая Русь", ні да ліберальнай Гайдукевіча, ні да камуністычнай Чыкіна і г. д. (маю на ўвазе беларусаў замежжа!). А з'езд менавіта і ладзіўся для беларускай дыяспары, а не для чарговага мерапрыемства БНФ і сацыял-дэмакратаў, якія менавіта ў гэты самы час адзначалі Дзень незалежнасці, які да таго ж пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 года сёлета ўрачыста святкаваўся 3 ліпеня... "Дзякуючы" таму, што ў зале большасць прысутных сабралася вырашаць не балючыя пытанні беларускай дыяспары, а выказаць сваю нязгоду афіцыйнаму курсу, пачатак работы форуму быў ператвораны ў вертэп, калі галёрка, дзе сядзелі найбольш ваяўніча настроеныя госці, не давала магчымасці зачытаць прывітанне Другому з'езду беларусаў свету Прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі, якое чытаў намеснік міністра культуры Рылатка. Дзе ж падзелася беларуская талерантнасць, вытрымка і павага да акаляючых? Крыкі "ганьба!", тупанне, плясканне ў далоні паверглі некаторых з нас, дэлегатаў замежжа, у такі шок, ад якога мы яшчэ і па сёння не ачунялі!

Хацелася б спадзявацца, што кіраўніцтва ўправы ЗБС "Бацькаўшчыны" атрымала добры ўрок на будучыню: а ці патрэбны былі на нашым беспартыйным з'ездзе вось такія "партыйцы"?! Яны ж маглі пакласці пачатак развальванню Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", калі б усе дэлегаты замежжа былі падобнымі на падпісантаў "Звароту", змешчанага ў "Голасе Радзімы" № 32. З заявай аб стварэнні новай, альтэрнатыўнай арганізацыі беларусаў замежжа выступіла на сустрэчы з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам прадстаўніца беларускай дыяспары з Прыднястроўя Ганна Лапацьева, якую на з'ездзе літаральна запляскалі ў далоні, калі яна паспрабавала зачытаць свой "зварот" да Прэзідэнта, парламента, народа Рэспублікі Беларусь. Але Ганна ехала ў Мінск не проста на з'езд, як яна піша ў сваім "звароце", "сусветнай беларускай абшчыны "Бацькаўшчына", і, як кажуць, Бог ёй суддзя, калі толькі яна ў яго верыць!.. Але мне, як дэлегату з'езда, добра былі відаць паводзіны не толькі з боку прыхільнікаў БНФ і сацыял-дэмакратаў, але і тых "дэлегатаў", якія лічацца беларусамі толькі па пашпарту або па месцу нараджэння (Беларусь), якія не могуць па-беларуску звязаць пяць слоў у просты сказ і даўно сталі рускамоўнымі савецкімі людзьмі. Падчас работы з'езда многія з гэтых рускамоўных савецкіх людзей, выхадцаў з Беларусі, паводзілі сябе не лепей, чымсьці тыя малайцы з галёркі, якіх Лапацьева і іншыя падпісанты заявы называюць "нацыяналістамі-адшчапенцамі". Асабліва выдзяляўся дзядзька з кастылямі, які падчас сустрэчы з Прэзідэнтам Лукашэнкам горда надаў сабе тытул прэзідэнта беларускага таварыства "Белая Русь" у Харкаве і які абражаў прадстаўніцу беларускай дыяспары з Эстоніі Ніну Савінаву на маіх вачах!

Вось разам з гэтай часткай дэлегатаў мне пашчасціла пабываць і на сустрэчы з Прэзідэнтам Лукашэнкам 28 ліпеня ў яго рэзідэнцыі (і не толькі з імі, былі і сапраўдныя патрыёты!). Шкада, што вечарам у відэазапісе не прагучалі выступленні Ганны Лапацьевай, прэзідэнта беларускага таварыства з Харкава і ім падобных. Нават на БТ зразумелі вартасць іх "выступленняў-зваротаў". І вось я бачу гэты "зварот" у 32-м нумары газеты "Голас Радзімы" за 7 жніўня сёлета. Прачытаўшы яго, я падумаў, што гэта нейкі недарэчны жарт! Але ж ён надрукаваны не ў "Вожыку", прабачце, а ў газеце, якая выдаецца для "суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны". А паколькі мне вядомы агульны настрой суайчыннікаў за межамі Бацькаўшчыны — Беларусь павінна быць незалежнай краінай, развіваць сваю самабытную культуру, захаваць для нашчадкаў мову, гісторыю, літаратуру і г. д., — то я і палічыў гэты "зварот" за недарэчны жарт. Але зараз бачу, што гэта проста правакацыя і шэльмаванне беларускіх патрыётаў у замежжы, аб'яднаных у Згуртаванні беларусаў свету "Бацькаўшчына", якое чамусьці "савецкія беларусы" назвалі "сусветнай беларускай абшчынай". І гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што да ЗБС "Бацькаўшчына" яны не маюць ніякага дачынення. Яны звяртаюцца з "заклікам" да пана Лукашэнкі, парламента і народа Беларусі "зрабіць усё магчымае для паскарэння працэсу інтэграцыі ўсіх рэспублік на тэрыторыі былога Савецкага Саюза і перш за ўсё славянскіх дзяржаў як асновы будучыні нашай Радзімы..."

А ці ведалі падпісанты з Харкава, што гэтым заклікам яны, як грамадзяне Украіны, парушылі артыкулы 1, 2, 132 Канстытуцыі Украіны?! Украіна ніколі не пагодзіцца страціць добраахвотна сваю незалежнасць, за якую на працягу некалькіх стагоддзяў змагаліся яе лепшыя сыны. Дык хто ўпаўнаважыў "харкаўскага дзядзьку", родам з Беларусі, вырашаць лёс украінцаў і Украіны?! Якога яшчэ, панове, "саюза" вам хочацца для поўнага "шчасця"?! Што, у Беларусі вам будзе няўтульна, бо такіх тут "змагароў" за розныя саюзы вунь колькі — адна СС "Белая Русь" чаго толькі вартая! А так вы будзеце дасылаць "звароты, заклікі, пасланні", якімі будзеце сеяць варожасць з боку ўкраінцаў да беларускага народа, яе Прэзідэнта, будзеце "навідавоку", так бы мовіць. Не, не пройдзе гэта ў вас! Ніводзін нармальны беларускамоўны беларус ні ў якое "Сусветнае таварыства беларусаў" з вамі не пойдзе — гэта раз. А, па-другое, не дазволіць вам абражаць святое: нашу мову, культуру, ЗБС "Бацькаўшчыну", якую не вы стварылі, не вам яго і разбураць.

Заканчваючы свой допіс, хачу параіць кіраўніцтву ЗБС "Бацькаўшчына" неяк паразумецца з кіраўніцтвам краіны і ў першую чаргу — з Прэзідэнтам А. Лукашэнкам, не быць у апазіцыі да яго, таму што ЗБС — не партыя, а грамадскае аб'яднанне, і, магчыма, у нечым трэба і можна дзеля агульнай справы, дзеля карысці для нас, беларусаў замежжа, і паступіцца, каб сярод нас не з'яўляліся Ганны Лапацьевы і "дзядзькі з Харкава", якія хочуць нажыць сабе танны капітал, — раскалоць згуртаванне, падмяніць яго нейкім псеўдасусветным таварыствам.

І я, і мае сябры тут, у Ізяславе, лічым, што было памылкай праводзіць Другі з'езд 26—27 ліпеня. Уся Беларусь святкавала Дзень Рэспублікі, 930-годдзе Мінска, Дзень вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў аж чатыры дні — 3—6 ліпеня. І было б вельмі добра, каб у гэтым свяце і мы, беларусы далёкага і блізкага замежжа, прынялі ўдзел, і з'езд адбываўся не два дні, а тыдзень, з 3-га па 10-га ліпеня: удзел у святкаванні, работа на з'ездзе, наведванне міністэрстваў, паездкі па славутых мясцінах і г. д. Упэўнены, калі б з'езд планаваўся ў гэты тэрмін, Прэзідэнт краіны пайшоў бы нам насустрач і дапамог бы фінансаваць яго правядзенне. Я быў на сустрэчы з ім 28 ліпеня і ўважліва слухаў яго прамову, дарэчы, на цудоўнай беларускай мове. З яе мы даведаліся, што кіраўніцтву "Бацькаўшчыны" прапаноўвалася менавіта ў пачатку ліпеня праводзіць з'езд, але вы адмовіліся і не прыслухаліся да пажадання іншых, і ў рэшце рэшт маем, што "маем"...

Я ўпершыню бачыў і чуў жывога Прэзідэнта, магу з нечым пагадзіцца, з нечым і не пагадзіцца, але ўпэўніўся ў адным: не такі ўжо ён дыктатар, як яго распісалі ў расійскіх ды некаторых украінскіх і польскіх СМІ! На тое ён і Прэзідэнт, каб быць першаю асобаю ў краіне, а калі ў нечым раптам памыліцца, дык хто ж з жывых людзей, прабачце, не памыляецца?!

І апошняе. Я быў у гасцях у сястры Сафіі, якая жыве ў Пухавіцкім раёне ў вёсцы Раўнаполле, дзе я нарадзіўся. Гутарыў з ёю, суседзямі. Усе яны задаволены сваім Прэзідэнтам: не галадаюць, пенсіі атрымліваюць своечасова! А нашы пенсіянеры на Украіне не маюць пенсій па 4—5 месяцаў пры "дэмакратычным" прэзідэнце Л. Кучме. Усё пазнаецца ў параўнанні: і параўнанне гэтае на карысць Прэзідэнта Беларусі, таму што ў Беларусі людзі сёння жывуць больш заможна, чым мы на Украіне. І вялікая заслуга тут менавіта пана Лукашэнкі. Гэта я хацеў сказаць на сустрэчы 28 ліпеня, але на маё выступленне (і яшчэ 4-х дэлегатаў) не хапіла часу...

Спадзяюся, што наша ЗБС "Бацькаўшчына" будзе існаваць і надалей, улічваючы палітыку дзяржавы і яе кіраўніцтва, бо без гэтага нікуды не дзецца: жыць у дзяржаве і быць вольным ад яе немагчыма!..

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера", член вялікай рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

Ізяслаў,
Украіна.

## АНАНІМКА

Менавіта толькі так можна зразумець надрукаваны 11.VII.97 у газеце "Чырвоная змена" "Зварот да Прэзідэнта, Парламента, Народа Рэспублікі Беларусь", які падпісала "группа товарищей" без прозвішчаў і якая схавалася за словамі "прадстаўнікі беларускіх абшчын Прыднястрўскай Малдаўскай Рэспублікі, усходняга рэгіёна Украіны" і другіх месцаў. Але ж члены дэлегацый — яшчэ не прадстаўнікі, бо для гэтага патрэбны паўнамоцтвы на заявы ад імя ўсіх дэлегацый, а тым больш — суполак. Такім чынам, яны прадстаўляюць толькі сябе.

Па сутнасці Зварот — гэта "вселенский плач" па былой нашай "Вялікай Радзіме", заклікі аднавіць яе (СССР) і аднавіць супрацьстаянне Захаду. Па форме гэта нагадвае "Призывы ЦК КПСС" і бясконцыя "одобрямс" уладам. Зваротчыкі нібыта пякуцца пра беларускі народ, але ні слова — аб захаванні нацыянальнасці, беларускай культуры і мовы, без чаго беларусы знікнуць як этнас з арэны гісторыі. Ці гэта не пра "зваротчыкаў" пісаў паэт: "Вчерашний раб, уставший от свободы, возропщет, требуя цепей"?

У звароце чытаем: "...значная частка дэлегатаў... якая прыбыла з заходніх краін і імі фінансуецца, робіць усё, каб гэты з'езд не аб'яднаў усіх беларусаў у адзінае цэлае разам з брацкімі славянскімі народамі краін СНД, а, наадварот, раз'яднаў". Але ж! — на з'ездзе "значная частка дэлегатаў" складала... аж 4 чалавекі, а выступілі двое, наогул нават не кранаючы "славянскае брацтва". Выснова адна: зварот напісаны да з'езда, загадзя. А "пісары" забыліся падкарэкціраваць яго па выніках з'езда.

Прэса абвінаваціла з'езд, што гэта было "палітычнае шоу". Але ж, як вядома, займацца палітыкай — гэта змагацца за ўладу. ЗБС "Бацькаўшчына" і яе кіраўніцтва ні на беларускі, ні на які другі "трон" не насядае, гэта, як кажуць, і казе ясна. А выказаць свае погляды на дзеянні ўлады — гэта называецца актыўнай жыццёвай пазіцыяй. І мы, дэлегаты, былі б проста шваль, калі б не выказаліся ў падтрымку дэмакрытыі, незалежнасці, адраджэння свайго народа.

Аўтары ананімкі не ў ладах з логікай. Ім не падабаюцца "нацыяналісты-адшчапенцы", а недавер яны выказваюць кіраўніцтву ЗБС "Бацькаўшчына", якая якраз імкнецца аб'яднаць усіх беларусаў розных палітычных поглядаў, шукаючы тое, што іх аб'ядноўвае, а не раз'ядноўвае, што і прагучала ў дакладах кіраўніцтва.

На з'ездзе ніякага расколу не адбылося. Усе дакументы былі прыняты фактычна адзінагалосна, і выказаны тым давер кіраўніцтву "Бацькаўшчыны". Былі розныя погляды: адны галоўнай задачай лічылі абарону незалежнасці і адраджэнне, другія — культурную працу, маючы на ўвазе песні і танцы. І гэта нармальна, бо ўсё ў рэшце рэшт працуе на беларушчыну. Абурэнне выклікалі выступы адзінак супраць незалежнасці і адраджэння, якія супярэчаць, дарэчы, статуту ЗБС.

Акрамя "Бацькаўшчыны", у Беларусі ёсць і таварыства "Радзіма". Каго хочаш — выбірай, хто не даваў "зваротчыкам" адразу ўступіць туды. "Радзіма" якраз пад эгідай дзяржавы. І добра, што няма манаполіі. Няхай спаборнічаюць у сваёй працы, абы для дабра Беларусі.

**А. МІТЭР,**
**дэлегат I і II з'ездаў беларусаў свету.**

г. Навасібірск.

## КАШТОЎНЫЯ ЭКСПАНАТЫ

**Усю калекцыю кніг і ікон XVI—XIX стагоддзяў, якая была сабрана за дзесяткі гадоў і захоўвалася ў запасніках, выставілі на агляд наведвальнікаў работнікі Крычаўскага краязнаўчага музея. Зборам каштоўных экспанатаў доўгі час займаўся былы дырэктар музея заслужаны дзеяч культуры Беларусі Міхаіл Мельнікаў, цяпер справу бацькі працягвае яго дачка Наталля.**

**НА ЗДЫМКАХ: ікона з фондаў музея; старадаўнія кнігі.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**





*ГІСТАРЫЧНАЕ ТАВАРЫСТВА «ТАДЭВУШ РЭЙТАН»*

# ПЕРШЫЯ КРОКІ



Тадэвуш Рэйтан — адна з гераічных асобаў нашай гісторыі. У 1773 годзе ён быў паслом ад Навагрудскага павета на Варшаўскі сейм, дзе выступіў супраць падзелу Рэчы Паспалітай. Дзякуючы рашучасці і самаахвярнасці, Тадэвуш Рэйтан стаў сімвалам выканання грамадзянскага абавязку. Яму прысвечана карціна мастака Я. Матэйкі, у яго гонар чыгуначная станцыя ў цяперашнім Ляхавіцкім раёне названа Райтанавам. Памяць пра героя шануюць яго землякі, у Ляхавічах створана гістарычнае таварыства "Тадэвуш Рэйтан", у якое ўвайшлі краязнаўцы, аб'яднаныя ідэяй патрыятызму, братэрства, грамадзянскай свядомасці. Таварыства мае на мэце вывучаць гісторыю роднага краю, раскрываць таямніцы мінулага, выхоўваць павагу да памятак даўніны.

Паблізу Ляхавіч знаходзіцца Грушаўка — былы маёнтак Рэйтанаў. Менавіта ў Грушаўцы 24 жніўня 1997 года таварыства правяло сваё першае мерапрыемства — свята, прысвечанае 255-м угодкам Тадэвуша Рэйтана. Да капліцы — помніка архітэктуры пачатку XX стагоддзя — прыйшлі сябры таварыства, жыхары навакольных вёсак, госці з Баранавіч і Мінска. Было шмат дзяцей, многія прыйшлі цэлымі сем'ямі. Вялікую цікавасць выклікала дакументальная выстава пра знакамітага земляка і даўнюю гісторыю роднага краю. Асаблівую ўвагу прыцягвалі арыгіналы фотаздымкаў пачатку стагоддзя, археалагічныя знаходкі, алейны партрэт Т. Рэйтана. Прэзідэнт таварыства Міхась Турыянскі распавёў пра жыццё героя, спыніўся на неабходнасці захавання Грушаўскай сядзібы — камяніцы, дзе правёў апошнія дні Тадэвуш Рэйтан, драўлянага палаца, парку, гаспадарчых пабудоў. Краязнавец Леанід Чаранкевіч расказаў пра клопаты па аднаўленню парку ў Рэпіхаве. Гучалі класічныя мелодыі, песні пра родную зямлю і яе гісторыю.

**Віталь СКАЛАБАН.**

**НА ЗДЫМКУ: Грушаўская сядзіба з малюнка Н. Орды. На першым плане камяніца, у якой правёў апошнія дні Тадэвуш Рэйтан.**

# ДЫК ДЗЕ Ж НАРАДЗІЎСЯ АДАМ МІЦКЕВІЧ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

мавай. З паважаным спадаром Мірачыцкім можна пагадзіцца ў тым, што Адам Міцкевіч не нарадзіўся ў Завоссі пад Навагрудкам і што вялікі паэт звязаны менавіта з Завоссем Калдычэўскім, якое ён апяваў і пра якое ўспамінаюць сямейныя біяграфіі. Можна дадаць, што Міцкевіч жыў тут з верасня 1799 года да 1801, бываў у сваякоў адзін і з сябрамі ў час канікулаў, калі вучыўся ў Віленскім універсітэце, і пазней, да 1824 года, калі вымушана выехаў у глыб Расіі. У хаце паэт меў свой пакойчык, часам начаваў у свіронку, гуляў па наваколлі і на Калдычэўскім возеры (дарэчы, у міцкевічаўскі час населенага пункта Калдычэва не існавала). Гэтае месца сапраўды годнае ўшанавання. І тое, што з польскай дапамогай адноўлены ўвесь комплекс забудоў міцкевічаўскага маёнтка, вельмі добра. Але нельга безапеляцыйна і бяздоказна заяўляць, што ў Завоссі Калдычэўскім нарадзіўся Адам Міцкевіч.

Яшчэ Аляксандр Ельскі сцвярджаў, што лічыць вёску або фальварак Завосся Калдычэўскага месцам нараджэння паэта "домысл безпадстаўны". Прапаную ўспомніць артыкул Уладзіміра Урбановіча "Адам Міцкевіч і Навагрудчына", надрукаваны ў "Голасе Радзімы" (25.01.1990). Паважаны настаўнік пісаў: "Пры жыцці паэта ўсе безапеляцыйна месцам нараджэння называлі Навагрудак".

Пра яго пішуць у сваіх публікацыях П. Хмялоўскі, прафесар Б. Дыбоўскі, К. Вуйцыцкі, А. Ходзька, І. Дамейка, даследчык В. Баравы. Найбольш пераканаўча называюць Навагрудак месцам нараджэння Адама Міцкевіча Аляксандр Ельскі і Вінцэсь Каратынскі. Першы пісаў: "Хто не чуў пра Навагрудак, хаця б з нагоды прарока Адама, які найпраўдападобна тут нарадзіўся і быў ахрышчаны". Другі ўпэўнена сцвярджаў: "Мы павінны рашуча адмовіць Завоссю і аддаць Навагрудку права гонару за нараджэнне на свет Міцкевіча".

На чым асноўваліся прыхільнікі Навагрудка?

Завоссе Калдычэўскае стала належаць бацькам Міцкевіча толькі пасля 5 месяцаў з дня нараджэння Адама, бо з 24 студзеня 1798 года па 5 мая 1799 года гэты фальварак быў маёмасцю Базыля Міцкевіча, з мая па верасень 1799 года — усіх ягоных спадчыннікаў, з верасня 1799 па 1801 год ім кіраваў Мікалай Міцкевіч.

Бацька паэта быў каморнікам мінскім, адвакатам навагрудскім. Каб выконваць свае службовыя абавязкі, яму трэба было жыць пад бокам судовых палат, а не ў далёкім Завоссі Калдычэўскім.

В. Каратынскі бачыў паперы, згодна з якімі Мікалай Міцкевіч у верасні 1798 года (за 3 месяцы да нараджэння Адама) пазычаў грошы ў Вінцэнта Стыпулкоўскага на "задатак для Антона Камінскага, з якім заключаў кантракт на кватэру". Сюды ж, у Навагрудак, швагер дастаўляў Міцкевічам свініну (Каратынскі глядзеў квіты).

Бясспрэчныя і наступныя разважанні Каратынскага: "...Жанчына, якая ў любую хвіліну спадзяваецца наступлення родаў, не магла па грудзе або снежаньскай гразі, па жудаснай пністай і камяністай сталовіцкай дарозе ехаць за сем міляў у пошуках уцехі (свята Божага Нараджэння. — **В. Ш.**). Калі б яна і дапусціла такую легкадумнасць, што зусім неверагодна, як гэта можа пацвердзіць кожная маці, дык давайце падумаем, што б гэта была за жорсткасць або неразважлівасць у лютыя студзеньскія маразы 1799 (адпаведна актам Варшаўскай абсерваторыі, маразы ў Варшаве даходзілі да — 28,9 градуса па Цэльсію, а ў Навагрудку, які адхіляецца ад яе на поўнач на 3 градусы, маразы значна большыя. — **В. Ш.**) вяртацца па той пякельнай дарозе ад сваякоў з нованароджаным нехрышчоным дзіцянём, каб 12 лютага ахрысціць Адама ў Навагрудку, калі ў некалькіх вярстах ад Завосся знаходзіўся парафіяльны касцёл у мястэчку Сталовічы". Дадамо, што Завоссе якраз і адносіцца да Сталовіцкай парафіі, а храм (з 1863 года як царква) дзейнічае па сённяшні дзень.

Згодна з метрыкай Фарнага касцёла ў Навагрудку нарадзіліся браты Адама: Францішак-Браніслаў (1796 год), Юліан-Аліксандр (1801 год), Казімір-Ежы (1804), Міхаіл-Антон (1805). А вось запіс № 315 з кнігі за 1799 год: "Года божага 1799 месяца 12 дня правелябны ксендз Антоні Постлет, канонік Курляндскі, ахрэсціў немаўля іменам Адам-Бернард, сына народжанага Мікалая Міцкевіча, каморніка мінскага, адваката навагрудскага, і Барбары Маеўскай, высакародных мужа і жонкі. Кумамі былі яснавяльможны Бернард Абуховіч, земскі суддзя мазырскі, з народжанай Анэляй Узлоўскай, жонкай пагранічнага суддзі Навагрудскага павета".

Падкрэслім, што пра Навагрудак як месца нараджэння Адама Міцкевіча гаварылі добра дасведчаныя людзі. Дамейка вучыўся разам з ім у Віленскім універсітэце, як і ён, быў філаматам і сядзеў у базыльянскім кляштары падчас следства, сябравалі ў



**Рынак у Навагрудку, справа — Замкавая вуліца.**

# БУДЗІЦЕЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

вобласці ў медныя капальні Джэзказгана. Тут панавалі муштра, здзекі, як і ўсюды ў такіх установах па "перавыхаванню" несацыялістычных элементаў.

Здаралася, каб неяк падбадзёрыць адзін аднаго, каму давяралі, зразумела, дэкламавалі катаржны фальклор, накшталт таго: "Працуй старанна для Радзімы, ідзі ў капальні, будуй масты, плаціны... Павінуйся і не думай, што ты не вінават, што не ўславіў песняй лебядзінай "мудры" сталінскі халат..." І ўсё ж патрэбна было ў штосьці верыць, бо можна было звар'яцець. А такое бывала. У такія горкія хвіліны прыходзілі на памяць словы айчыннага пілігрыма-эмігранта:

**Літва! Радзіма, як здароўе,**
**дарагая!..**
**Што варта ты, той толькі**
**ўцяміць і спазнае,**
**Хто цябе утраціць. Сёння**
**прыгажосць тваю я**
**Зноў бачу і апісваю, бо ўсцяж**
**сумую.**

З літаннем боскім, са словамі вялікага земляка звяртаўся Пятро Бітэль да Панны Святой, што бароніць Чэнстахову і ў Вострай свеціць Браме, каторая ўзяла пад ахову:

**Наш слаўны Наваградак з яго верным**
**людам,**
**Як мне жыццё ў дзяцінстве**
**ты вярнула цудам,**
**(Калі ў адчаі маці пад тваю апеку**
**Мяне здала і мёртвую я ўзняў**
**павеку**
**І зразу змог пайсці к тваіх**
**святынь парогу**
**За вернутыя сілы даць**
**падзяку Богу) —**
**Так цудам зноў нас вернеш**
**у наш край каханы.**

Паэтычны геній Адама Міцкевіча дапамагаў выжыць, прыдаваў упэўненасць, што таталітарны лад не вечны. І, здалося, што малітва пакутніка-беларуса за сваіх сяброў Усемагутным была пачута: "Неба забрала тырана!" Такія словы шэптам перадаваліся вязнямі адзін аднаму ў незабыўныя дні сакавіка 1953 года. Узрастала вера ў лепшы лёс, у справядлівасць; Пятро Бітэль нават не падазраваў, што стаўся першым савецкім вязнем — перакладчыкам паэтычнага шэдэўра сусветнай літаратуры, бессмяротнай эпічнай паэмы "Пан Тадэвуш", які ствараўся Адамам Міцкевічам, па ягоных словах, "на парыжскім бруку".

Каб не звар'яцець ад пакутлівых думак, Пятро Бітэль крадком ратаваў сябе мастацкімі перакладамі паэмы "Пан Тадэвуш". Тады станавілася лягчэй на душы, што разам з героямі твора падарожнічае ён па прынёманскіх абшарах:

**...перанось мой дух засумаваны**
**У зялёны лес, на сенажаці,**
**на паляны,**
**Што над блакітным Нёмнам**
**скрозь парасціланы,**
**Да маляваных ніў, дзе жыта**
**серабрыцца**
**І залачоная калышацца пшаніца,**
**Дзе грэчка быццам снег,**
**свірэпка як бурштыны,**
**І дзяцельнік гарыць румянцамі**
**дзяўчыны...**

Да 1956 года, калі пачалося вызваленне палітычных савецкіх пакутнікаў з Джэзказганскага лагера, Пятро Бітэль і пераклаў там, будучы ў няволі, бессмяротны твор Адама Міцкевіча.

Ці трэба апавядаць пра тое, як пакутліва-моцна перажываў настаўнік, паэт, ведаючы, што яго жонка Ніна Пятроўна з трыма дзецьмі засталася без сродкаў існавання, як цяжка ёй, былой польскай настаўніцы. Неаднаразова звярталася яна да савецкіх органаў аб літасці. Раілі развесціся з мужам: "Тогда и будем решать вопрос о помощи вам". "У нас жа трое дзяцей. Да таго ж муж ні ў чым невінаваты. Невінаваты і нашы дзеці". Не пераканала. Царкоўныя ўлады шукалі выхад, як дапамагчы няшчасным. Яны змаглі выдзеліць невялічкую дапамогу ў памеры 20 рублёў на месяц. "Вялікае ім дзякуй і за гэта", — добрым словам успамінала спагадлівых людзей Ніна Пятроўна.

За смелы і адважны ўчынак Мікіты Хрушчова, які на саюзным форуме камуністаў сказаў пра тое, што вялікі правадыр нарабіў шмат памылак і нават злачынстваў, Пятро Бітэль высока цаніў яго і быў яму ўдзячны. Спадзяваўся, што і на Бацькаўшчыне не будуць больш здзекавацца з інтэлігенцыі, з роднай мовы, будуць паважаць яе, гісторыю беларусаў. Аднак памыліўся, бо ў родных мясцінах па-ранейшаму балявалі яшчэ ўсё тыя ж непахісныя сталінскія кадры з дагматычным мысленнем, якім цяжка было адмовіцца ад застылых стэрэатыпаў. Таму на працу ў школе былога вязня не бралі. Вымусілі зноў ісці працаваць святаром.

Праз некаторы час з вялікімі цяжкасцямі і дзякуючы клопату добрых і сумленных людзей, яму ўсё ж удалося ўладкавацца на педагагічную працу ў Вішнеўскую сярэднюю школу. Друкаваць яго ўласныя творы і пераклады з іншых літаратур ніхто ў рэдакцыях і выдавецтвах не адважваўся: "Як можна, гэта ж былы святар!" Пазнаёміўшыся з апальным настаўнікам і паэтам, паспрабаваў я напісаць пра Пятра Бітэля ў цэнтральную прэсу невялікі артыкул пад назовам "Настаўнік, паэт, перакладчык", у якім аб яго мінулым нічога не згадвалася. Газета "Звязда" 6 красавіка 1965 года допіс мой змясціла. Становішча з друкаваннем твораў папраўлілася. Мне прыйшлося самому хадзіць па рэдакцыях і ўпрошваць надрукаваць творы Пятра Бітэля, паколькі яны прысвячаліся замежным краінам, якія я курыраваў, працуючы ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. З публікацыямі праблемы больш не было.

У 1968 годзе ў выдавецтве "Беларусь" пабачыла свет эпічная паэма Пятра Бітэля на гістарычную тэму "Замкі і людзі", якую ён прысвяціў сваёй найлепшай сяброўцы, нястомнай спадарожніцы жыцця, жонцы Ніне Пятроўне ў доказ глыбокай пашаны і шчырай адданасці. Гэта творчая праца аўтара пераносіла чытача ў XIV стагоддзе роднай старонкі, знаёміла з жыццём нашых продкаў, іх турботамі, падзеямі, што адбываліся ў Вялікім Княстве Літоўскім у апошнія гады валадарання вялікага князя Альгерда, а таксама ў часы вялікакняжання Кейстута і пачатку ўзвышэння князя Ягайлы.

У шасцідзесятыя гады, калі беспрасветна панавалі яшчэ дагматычныя ўстаноўкі, а прафесійныя гісторыкі неахвотна браліся за распрацоўку непажаданай і далікатнай тэмы, выкладчык беларускай літаратуры ў мастацкай форме пераканаўча ўзнаўляў далёкую мінуўшчыну:

**Многа ў Альгерда і слуг, і багацця,**
**Войску, дружыннікам — ліку няма;**
**Край абысці, дык жыцця мо не хваце,**
**А гарадоў — незлічоная цьма.**
**Замак у Вільні пад Тур'яй гарою,**
**Там, дзе Віленку сустрэла Вілля,**
**Моцна, вялізарны, рэдкай парою**
**Князю служыў для спачынку — жылля.**
**Альгерд несупынна ў раз'ездах, паходах,**
**Ён валадарыў жалезнай рукой —**
**Строгім суддзёй быў у братніх нязгодах,**
**Страшным у бітвах з крыжакам, з Ардой;**
**Ворагаў меў, дый сяброў меў багата,**
**Многіх любіў, ды найболей бярог**
**Кейстута з Трок, маладзейшага брата,**
**Сябра баёў і бясконцых дарог,**
**Смелага рыцара, здольнага мужа,**
**З кім абмяркоўваў нямала падзей,**
**З кім з даўніх год праслаўляў ён аружжа,**
**З кім і уладай дзяліўся сваёй.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

Дрэздэне. Мянушка Дамейкі "Жагота" была першым варыянтам назвы паэмы "Пан Тадэвуш". Дамейка напісаў успаміны аб маладосці Міцкевіча. З кола Міцкевічавых сяброў і А. Ходзька, літаратар, філарэт. Пра яго адносіны з Міцкевічам даведваемся з ліста Адама да Тамаша Зана: "Алесь Ходзька павялічыў кольскасць былых знаёмых; гэты мілы юнак амаль жыў у мяне, і мы не маглі нарадавацца адзін на аднаго".

Ельскі атрымаў сваю інфармацыю ад Люцыяна Скуратовіча, які, як мы ведаем, гаспадарыў у фальварку Бяла і прыходзіўся Адаму Міцкевічу дваюрадным братам. У 1858 годзе тут гасціў Каратынскі, размаўляў з дзвюма дзядзькавымі сёстрамі паэта. Будучы ў Пазнанскай губерні, Каратынскі спецыяльна заязджаў да старэйшага брата Адама Францішка Міцкевіча, "каб даведацца пра што-небудзь больш пэўнае наконт месца нараджэння паэта. Пан Францішак шчыра сказаў мне, што да гэтага часу быў перакананы, што Адам нарадзіўся ў Навагрудку, але цяпер, калі выплыла Завоссе, ужо сам не ведае, чаго трымацца".

Такім чынам, на наш погляд, Міцкевіч нарадзіўся ў Навагрудку. Застаецца знайсці дом, у якім жыла ў гэты час сям'я Міцкевічаў. Як гаварылася вышэй, яна здымала кватэру ў Антона Камінскага. Нікадым Керсноўскі, рэпетытар маленькага Адама, пражыўшы каля 40 гадоў у Навагрудку і яго ваколіцах, успамінаў: "...Вакол Рынку мелі дамы толькі землеўладальнікі і гараджане, асабліва члены магістрата: Жарскі, дзе цяпер заязд, насупраць Казеннай палаты; Камінскі на вуглу вуліцы Замкавай, яшчэ цяпер існуючы, а пры ім, на гэтай жа вуліцы, быў дворык абывацеляў Узлоўскіх, дзе цяпер другі жыдоўскі заязд". Успомніце, што кумой пры хрышчэнні Адама была Анэля Узлоўская. У Завоссі Калдычэўскім Узлоўскіх не было.

У фондах Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея захоўваецца ліст навагрудскага павятовага маршалка ад 16 лістапада 1860 года, у якім паведамляецца, што "памешчыкі Навагрудскага павета, жыхары г. Навагрудка, жадаючыя ўвекавечыць памяць свайго суайчынніка, вядомага сваім геніем у еўрапейскай літаратуры Адама Міцкевіча, просяць майго хадайніцтва, каб прасіць дазволу ўрада на ўзвядзенне ў горадзе Навагрудку **(месцы нараджэння Міцкевіча)** у гонар яго помніка і адкрыцця дзеля добраахвотных ахвяраванняў на гэтую справу публічнай падпіскі". Думаецца, што тыя, хто ўзяўся за пастаноўку помніка, добра ведалі, дзе месца нараджэння Адама Міцкевіча.

**Вячаслаў ШВЕД,**
**дактарант БДУ.**

## *ПРЭМ'ЭРЫ*



**Тры новыя прэм'еры рыхтуе да адкрыцця новага сезона калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.**

**Сярод іх — "Утаймаванне свавольніцы" У. Шэкспіра. Пастаноўку прэм'еры на віцебскай сцэне ажыццявіў мастацкі кіраўнік Томскага тэатра юнага гледача Юрый Пахомаў.**

**НА ЗДЫМКУ: у ролі Грэм'е — народны артыст Беларусі Тадэвуш КОКШТЫС.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## *З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА*

**М. ДАЛЬНЫ**

# ВАСІЛЬ

**(АБРЫЎКІ ПОВЕСЬЦІ)**

1

Цягнікі праходзілі недалёка ад мястэчка. Васілю яшчэ малым хлапцом давялося быць з бацькам на станцыі. Тое, што ўбачыў ён тады, глыбока ўрэзалася ў яго памяць. Прыкацілася вялізарная, чорная бочка на колах, а да яе ўчэплены былі хаткі. З вокнаў выглядалі людзі. Доўга, доўга глядзеў тады Васіль усьлед ад'яжджаўшаму цягніку. Чорныя рэйкі плылі пакручаста за ім, хаваючыся недзе ў сінявым загайніку. Хмары дыму, грукат колаў, аглушаючы сьвіст зьбілі з ног хлапца. Ён як бы й нябачыў цёткі, якую спатыкаў бацька. Толькі калі нехта турзануў яго за руку — апрытамнелі вочы й па цьвёрдаўбітаму пэрону йшлі яны да каня. Васіль дзівіўся, скуль раптам з'явілася булка ў яго руках. Далёка ўжо тарахцеў іх воз па шашы, а цягнік усё чахкаў у лясных гушчарах.

Пасьля, у школе ўжо, даведаўся Васіль, што далёка, далёка ёсьць чароўныя, гарады вялікія, зьвяры й птушкі нябачаныя. Як гэта дзіўна! Ёсьць такія дамы — у вадным такім доме ўсё іх мястэчка зьмясціцца можа.

— Які гэта вялізны дом, — дзівіўся Васіль, — як там царква і ўсе хаты ўлезуць?

— Хаты не, і царква не, але людзі, — паясьняў Грышка, Васілёў сябра.

Вось гэты цягнік, сьвіст якога чуў здалёк Васіль у ціхія вечары, мог завязьці яго ў гэтыя далёкія, нязьведаныя краі.

І прыходзілі сны, наплывалі вобразы, вытканыя з дзіцячых уражаньняў, абвеяныя красой палёў і сенажацяў, што калыхаліся ў ветры за мястэчкам. Вобразы сьпляталіся ў нязбытныя казкі, пераліваліся колерамі вясёлкі й тамілі насалодай сэрца. Ах, гэтыя сны... Яны доўга трывожылі Васіля, часам цэлымі днямі неперарыўным прадзівам плылі наяве й адбіралі ахвоту да ўсяго. Але голас бацькі быў жорсткі й суровы, і рваліся ніткі лятуценьняў.

— Ты чаго стаіш, доўбала? Як дам, то ў сьцяну ўстрагнеш!.. — і стары Язэп моцна штурхаў у плечы сына.

Білі Васіля, білі многа й чым папала. Можа таму й быў ён такі худы й бледны. Можа таму зачынілася рана душа яго дзіцячая для бацькоў і прывык ён рана жыць сам з сабой. Нярaз суседкі, забягаючы, літаваліся:

— І занэнджаны ж ён у цябе, Агата...

Маці гляне на Васіля, й шкода ёй стане хлапца. Такі ж ён, праўда, худы, мізэрны.

Цяжка было ў хаце Васілю. Ня знала яго сэрца ласкі цёплае й прывету. Часам маці заступалася. Маці, вядома, і накрычыць, і пашкадуе. Але бацькоўскі закон ня знаў ласкі.

Толькі на начлезе з хлапцамі было прывальней. Забывалася гора, іскрыўся сьмех у ваччу. Вецер вольны чупрыніў думкі, а ў сасоньніку плыў вялікі, ясны месяц. Курылі тут хлопцы, і Васіль спотайка ў бацькі махорку браў. А пасьля спалі смачна хлопцы, ды ня сьпіцца Васілю. Спутаныя коні пазваньваюць з туману. Сьпяць хлопцы. А Васіль доўга любуецца ночкай прасьветлай, і так неяк прыемна і лёгка ў гэтай цішыні вялічавай.

Міналі, міналі дні. То белымі ахап'ямі сьнежнымі, то сонцам і сіньню падалі яны ў шыбы мястэчковых хат. Праца гаспадароў ішла сваім кругазваротам. З кожным годам пераймаў Васіль усё больш гаспадарскія заняткі бацькі. А калі скончыў школу — і гарадь пайшоў. Не цягнула яго праца гаспадарская. Не таму, што рукі цьвярдзелі ад мазалёў і болем нылі. Клікала яго сіла нейкая ў сьвет далёкі.

Ах, ведаў Васіль дзяўчыну адну. Толькі Грышку, сябру свайму, прызнаўся ён, што ў сэрца яна запала. Недалёчка ў вёсцы жыла яна. Верай звалі. Раз, так нядаўна яшчэ, пазналіся. На спэктаклі беларускім у вёсцы іхняй. Яна дэклямавала такія прыгожыя вершы, расказвала ў іх аб долі мужычай. Прыветная яна й ціхая. Гаварыў з ёй нярaз пасьля. Вучылася яна. Вучылася ў Беларускай гімназіі й расказвала часта аб школе. І школа яе сталася й яго школай.

Аднойчы... Ужо чырванелі клёны й жаўцелі бярозы... Васіль нясьмела выказаў просьбу сваю:

— Тата, я паеду вучыцца...

Бацька, скручваючы папяросу, зірнуў з-пад ілба глыбока, як бы зьдзівіўся нечаканымі словамі сыновымі.

— Вучоным хочаш быць, га? Што ж, ня кепска. Толькі ня быць табе панам. Ты лепш гаспадаркі пільнуйся. Ня трэба мне тваёй навукі. Гаспадарыць трэба.

Язэп закашляўся, і калі кашаль адыйшоў, зацягнуўся махоркай, як бы надумваючыся. А пасьля дадаў:

— У людзей такія дзяцюкі вун як ужо гаспадаруюць, а ён, бач, што ўздумаў. Грамацей! А хто ж мяне заступіць? Для каго я ўвесь век біўся, га?

І пагадзіўся Васіль, што гэтую зіму ў хаце прасядзіць.

К горшаму зьмянілася жыцьцё Васіля, калі памёрла маці. Нешта незразумелае ўбачыў ён у сьмерці гэтай, у твары сьцюдзёна-зьсінелым, у пальцах скасьцянелых. Бабы-суседкі сядзелі на лавах ля нябожчыцы, мужчыны й дзеці тоўпіліся ў хаце. І ў паўгалосых гутарках учуў Васіль, што хутка будзе ў яго другая маці. Цяпер, калі нябожчыца ўжо навекі супачыла, Васілю ўсё шаптаў яе жывы голас:

— Васечка, родненькі, сынок... памру я... прыдзі на магілку... успомні мяне... кепска табе будзе, саколік ты мой...

І сьлёзы набягалі Васілю, і жаль нейкі сьціскаў сэрца. Здавалася, й карова ў хляве глядзіць неяк жалосна на яго сьлёзы.

2

У вуліцы было мала хлапцоў-аднагодкаў Васілёвых. З адным Грышкай здружыцца прыйшлося. Мо' таму, што хаты іх бацькоў стаялі побач, а яны, хлопцамі, разам у школу бегалі, лісьце кляновае пад хлеб зьбіралі. Цяпер, калі Васіль асірацеў, дружба памацнела й, здавалася, ня было ніводнай думкі, ніводнай справы, якой бы не дзяліліся яны. Грышка стаў нейкі паважны, задуменны, як бы гора сябры было й яго горам. Але паволі забывалася сьмерць і ізноў вярнуліся радасныя вечары, калі туляліся яны ля вулачных плятнёў, заглядалі ў вокны або лазалі па мястэчку. Грышка быў павернікам Васіля. Яму аднаму адкрываў ён сваю душу, й лягчэй было, калі ў даўгіх гутарках аб месяцы, аб падарожжах, аб Веры чарнавокай сплывалі кудысь лятуценьні. Грышка не заўсёды разумеў Васіля, і часам дзіўнымі здаваліся яму сны Васілёвы. Радзіўся ён гаспадаром, глыбока й роўна ішоў плуг у яго руках.

Усё большым пажарам загараліся жоўталістыя бярозы ў прачыстай сіні жніўнёвых вечароў, калі ад'яжджала Вера. І ізноў Васіль убачыў чорныя рэйкі, што вялі ў далёкі, далёкі сьвет. Той самы цягнік падбег з цёмнай далі і вырас з цемры жоўтымі агнямі. Толькі цяпер сумна было Васілю, сумна па далечы той, куды ад'яжджала вясковая гімназістка.

— Бывайце, хлопцы! — радасна крычала Вера й доўга махала рукой з вакна, а цягнік усё далей і далей разлучаў іх, і з апошнім вагонам, здавалася, безпаваротна адплывала яго шчасьце. Ня мог ён таксама ўмчацца на гэтых рэйках у звонкую даль.

Месяц серабрыў пожні, калі сябры варочаліся са станцыі.

— Ня журыся, Васька, хутка вернецца твая Магрэта, — жартліва пацяшаў Грышка сябру.

Але сум захмурыў твар Васіля.

— Вучыўся б я, браце, — задуменна выясьніў ён. — Разумееш, ёсьць жа недзе іншы сьвет, іншыя людзі, дзе ўсё цікава... Так хочацца ўсё пабачыць.

Грышка адразу знайшоў практычную раду.

— Пачакай, паедзем, — з захапленьнем гаварыў ён, шагаючы ў ногу, — купім ровэры й паедзем. Ты ведаеш — ровэрам і ў Вільню заехаць можна.

А пасьля прыпамятаваў:

— А во, той студэнт, што ля рынку жыве — ён жа ўлетку ў Варшаву ровэрам закаціў.

Васіль ня цешыўся праектам сябры. Што ровэры? Дый ці купіць ён ровэр, калі бацька й ламанага грошыка яму не дае. Грышка — што іншае — ён у столяра вучыцца й ужо трохі зарабляе.

— Ня куплю я ровэра, — працадзіў сумна Васіль.

— Купіш! а не — дык я свой пазычу, — стаяў на сваім Грышка.

Так яны ішлі.

— Эх, гэты бацька, — уздыхнуў Васіль. І раптам спыніўся, узяў рукой за плячо Грышкі й таямніча прашаптаў:

— Знаеш што — я з хаты ўцяку, у сьвет пайду. Ня жыцьцё мне ў бацькі.

У шопаце яго чулася зацятасьць і рашучасьць, як бы словы гэтыя даўно ўжо ён абдумаў і абмеркаваў.

У Амэрыку паеду, — і гэтымі словамі раскрыў усю таямніцу свайго намеру. — Ты толькі маўчы...

— Ну, ну, — запэўніў Грышка. — Але ў Амэрыцы, я чуў, горача. Там Аксюцін той у Аргэнтыне, у ваднаго гаспадара парабкам служыць. Улетку там і без кашулі ня ўтрываеш. — Грышка глянуў уздоўж дарогі, і там, далёка, за агнямі мястэчка, за морам, прадстаўлялася яму гарачая Аргэнтына, дзе працуе Аксюцін сын парабкам.

Было ціха. Адзінокі месяц высока падняўся, калі скрыпнулі дзьверы клуні й Васіль палез на сторану спаць.

Ночы станавіліся халоднымі, й абледзянелыя зоркі як бы ад прымаразкаў падалі ў заінеяныя імшары. І праз кажух дабіраўся холад. Хутка Васіль перабраўся ў хату і тут доўга ў пацёмках слухаў кашаль бацькі, покі не змагаў яго сон...

Васеньнія вечары імжой шаляськелі ў шыбы, і таямніча міргала лямпа. Цені, як чорныя матылі, дрыжалі на сьценах. Мрок хаваўся ў закуткі, і, здавалася, цені продкаў, зышоўшых у магілы, прытаіліся там і пільна сочаць за сваім патомкам.

А Васіль чытаў — Вера яму кніжкі пакінула. І забываўся ён доўгімі хвілінамі, ня чуў кашлю бацькавага й шэлестаў за вакном.

Часам... сварлівы голас нарушаў цішыню й странаў Васіля:

— Сьпі ўжо! Газы выпаліш колькі! Удзень начытацца можаш...

Васіль агрызаўся, ваяваў, але бацька, такі сьмешны ў даўгой ільняной кашулі, з худымі, абросшымі валасамі нагамі падыходзіў да лямпы, й цёмна рабілася ў хаце.

Ня раз Васіль заціскаў рукі й праклінаў шопатам бацьку, ня раз на палацях снаваў далей абарваны расказ і раскошна плылі нячытаныя нікім страніцы яго мар.

І такім цёмным, закінутым, ненавісным здавалася тады Васілю роднае мястэчка.

3

Адзін выпадак зьмяніў усе пляны Васіля. Гэта быў цырк. Аднойчы, валандаючыся з Грышкай па мястэчку, убачылі... афіша, у якой гучна рэклямаваўся прыезд цырку.

У колішнім памешчыцкім парку ішла праца. Нацягвалі палатно на скросы вялікай палаткі. Некалькі закрытых вазоў стаяла між дрэвамі. Нейкі чалавек бегаў каля палаткі й, размахваючы рукамі, паказваў і крычаў штось работнікам. Але нікога блізка не дапушчалі. Кучка людзей здалёк прыглядалася з цікавасьцю за ўсяго, што тварылася ў парку. Пастаяўшы сярод зявакаў, Васіль і Грышка папляліся дахаты.

Заўтра!

А назаўтра... у прамежках галоваў віднеўся асьветлены круг арэны, за ёй вісела заслона, й там, відаць, ішла ажыўленая падрыхтоўка, бо заслона калыхалася, як ад ветру. Іграў аркестр. Васіль, заслуханы, ня бачыў ні Грышкі, ні знаёмых. Усё замітусілася ў чароўным рытме музыкі. Гэта быў як бы голас тых далёкіх краін, аб якіх сьніў Васіль. Музыка сьціхла, й шум усё больш глушэў — усе нечага чакалі.

З-за заслоны выйшаў дырэктар цырку й абвесьціў спакойным, гучным голасам праграму.

На пачатку — трыё акрабатаў!

І вось... на арэну выбеглі ў гімнастычных касьцюмах два хлопцы й дзяўчына. Пругкімі рухамі яны ўскочылі на апушчаную трапэцыю й хутка паплылі ўгару. Там яны гойдаліся, пераскоквалі, кідаліся ўніз, чапляліся, зьвешваліся. Як цень хадзіла за імі сьмерць. А яны ўсьміхаліся.

— Гоп!

— Гоп!

У музыцы гінулі высілкі й боль і заставаліся прыгожыя, плаўныя рухі, расплаўленыя ў музыцы.

— Упадзе... упадзе! — шаптаў стрывожаны Грышка, але музыка ўсё грамчэй і грамчэй заглушала страх, і ізноў яны гойдаліся й сьмяяліся апушчанымі тварамі ў заварожаную масу.

Васіль, ледзь дыхаючы, сачыў, як хлапец, зачапіўшыся аднэй нагой, трымаў у зубох на моцы свайго сябру, а той — дзяўчыну. Сэрца білася, й нельга было стрымаць яго бой. І калі акрабаты ізноў вярталіся ў бясьпечнае палажэньне, чулася палёгка, й як бы маса публікі радасна ўздыхала. Але ізноў і ізноў ускаквалі акрабаты, падымаліся ўгору й лёгкімі, плаўнымі рухамі панавалі над публікай.

Клёўн з бураком замест носа быў сьмешны, але ў Васіля ўваччу стаялі тыя хлапцы й раскошная дзяўчына, здавалася, яны яшчэ вісяць у паветры й Васіль перажывае там з імі кожны рух!

Нумары ішлі адзін за другім з кіновай хуткасьцю.

Маленькая дзяўчынка станавілася на руках і, перагібаючы ўсё цела, зьвівалася, як вужака, высоўваючы сваю маленькую галоўку між рук. Яна паварочвала свой твар і ўсьміхалася ўсім, усім, і Васілю. Васіль адчуваў, як іх вочы спатыкаліся й на момант гаварылі незразумелай мовай. І так яе было шкада! Усьмешка гэтая — жаласная, як заснуўшая на твары нябожчыка.

Выступалі зручныя эквілібрысты, езьдзілі на адным коле ад ровэра, перакідалі запаленыя паходні, нажы, кулі.

**Працяг.**
**Пачатак у № 36.**




У апошні дзень лета зрабіў свае здымкі ў парку імя Горкага ў Мінску фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР.





# БУДЗІЦЕЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Так, сапраўды каларытнай постаццю прадстае ў паэме вялікі князь Альгерд, чалавек моцнага характару і дзяржаўных інтарэсаў, бо амаль заўжды быў у раз'ездах і паходах. Адметнасцю вылучаецца вобраз князя Кейстута, прыхільніка больш спакойнага жыцця, які любіў старыну, меў пашану сярод высокага стану грамадства. Аднак любімым героем у народа заставаўся вялікі князь Альгерд, пра якога складалі песні.

Рознабакова паказваючы вышэйшае грамадства, у якім не абыходзілася без супярэчнасцяў і праблем, аўтар не абмінуў паказаць і жыццё паспалітага люду, асабліва лёс сялянскага хлопчыка Вайдзілы, які стаў адважным воінам Альгердавага войска, адукаваным чалавекам, здольным дыпламатам. Увасабленнем сялянскай разважлівасці і дабраты паўсталі на старонках кнігі людзі з народа Астап і Паламея, дзед Мірон. З любоўю абмалёваны аўтарам асобы вайдэлотаў, народных сказіцеляў і песняроў беларуска-літоўскай дзяржавы, якія ў сваіх творах пранікнёна даводзілі пра абавязак усіх шанаваць матчыну мову, "звычай, абрады дарагія", не забывацца народных мелодый, што дасталіся ў спадчыну.

Дзякуючы стараннямі Пятра Бітэля, беларуская мастацкая літаратура ўзбагацілася цікавым эпічным творам на гістарычную тэму, які заслугоўвае стаць хрэстаматыйным.

Прыхільнай ацэнкі заслугоўвае кніга вершаваных аповесцяў "Дзве вайны" Пятра Бітэля. Яна цікавая тым, што ў ёй даецца чытачу ключ да разумення падзей гісторыі найноўшага часу. У свядомасці сучаснага пакалення актыўна пашыралася думка, што беларусы ў перыяд другой сусветнай вайны гінулі толькі з 1941 года. А раней? Лічылася нармальным абысці драматычныя і трагічныя падзеі 1939 года. Тады ж па міласці правадыроў "новага ладу" і "новага жыцця" беларусы разам з палякамі і іншымі нацыянальнымі меншасцямі гінулі і пралівалі кроў у бітвах з гітлераўскімі войскамі пры абароне Гданьскага калідора, Познані, Варшавы і ў іншых месцах ваенных дзеянняў.

У кнізе аўтар закрануў і тэму вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, будаўніцтва савецкага жыцця, якое суправаджалася метадамі прымусу, арыштамі сумленных людзей. Таму ў іх не выпадкова, піша Пятро Бітэль, узнікала пытанне:

**"Ну хто ж яны, уладары!**
**Калі па Сталіна загаду**
**Яны наводзяць гэтак лад,**
**Калі ён даў ім гэту ўладу,**
**Тады не бацька ён, а кат!**
**Калі ж улад тутэйшых мэта**
**Вось так наводзіць лад і мір,**
**Тады які ж ён правадыр!!"**

Бясследна знікалі тады не толькі дарослыя, але і вучні школ, чые бацькі дарэмна абівалі парогі прысланых кіраўнікоў, каб яны вярнулі іх сыноў і дачок. Сялян непакоілі таксама звесткі аб прымусовых сацыялістычных пераўтварэннях іх гаспадарчага жыцця. А тым часам для заходніх і ўсходніх беларусаў надышла новая вайна з войскамі "прыяцеля вялікага савецкага правадыра".

Данінай пашаны сваім настаўнікам, калегам і каляжанкам па семінарыі стала вершаваная аповесць Пятра Бітэля "Баруны". Тут ён калісьці атрымаў адукацыю, каб стаць добрым настаўнікам. Таму з гордасцю зазначаў, што "з Барунскай школы педагог умеў рабіць адзін за трох". Але, на вялікі жаль, розны лёс напаткаў гэтых шляхетных летуценнікаў і энтузіястаў. Некаторыя з іх загінулі, будучы ўдзельнікамі вераснёўскай абарончай кампаніі 1939 года. Другія трапілі ў палон, трэція — зноў на франты другой сусветнай вайны, чый "крывавы калаўрот многіх параскідаў па свеце".

Пра што б ні пісаў Пятро Бітэль: пра далёкую даўніну часоў Вялікага Княства Літоўскага ці блізкую найноўшую гісторыю, ён заўжды імкнуўся выкарыстаць дакументальныя крыніцы, каб твор адпавядаў гістарычнай праўдзе і быў пераканаўчым. Дзеля гэтага не цураўся і спецыяльных даследаванняў, часам спрэчных і да нядаўняга часу так званых "белых плямаў", бо лічыў, што іх наогул не павінна быць. У гэтым сэнсе характэрная яго дакументальная праца пад назвай "І нашых трапіла туды нямала...", у якой асэнсоўваюцца трагічныя падзеі 1939 года, у выніку каторых яго землякі-беларусы трапілі ў савецкі палон і загінулі ў Катыні.

Цікава, што на Пятра Бітэля як педагога і даследчыка даўніны значны ўплыў аказалі лекцыі семінарскіх паланістаў, у першую чаргу Марыі Багушэвічавай — нявесткі Францішка Багушэвіча, жонкі яго сына Тамаша, а затым Станіслава Куонца і доктара Тадэвуша Пізло, вядомага аўтара польскай граматыкі.

Свае веды Пятро Бітэль стала ўзбагачаў. У 1939 годзе скончыў Вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Вільні. У немаладым веку вучыўся і скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1970), Маскоўскія курсы замежных моў па спецыяльнасці "Нямецкая мова". Яго ведалі як руплівага краязнаўцу, даследчыка пашырэння хрысціянства на літоўска-беларускіх землях, не толькі візантыйска-праваслаўнага абраду, але і рымска-каталіцкага. Дбайна займаўся вывучэннем існаваўшых у сярэднявеччы рэфармацкіх накірункаў, у прыватнасці, дзейнасцю манаскіх ордэнаў і кляштараў. Бо тут засяроджвалася праца прыхільнікаў усталявання новага рэлігійнага светапогляду, якая падтрымлівалася Радзівіламі, Тышкевічамі і іншымі знатнымі людзьмі.

Ва ўсім, за што ён браўся, над чым працаваў, дзеля чаго жыў, Пятро Бітэль заўжды ў цэнтр увагі ставіў нацыянальную ідэю, карані якой, па ўласнай перакананасці, мацуюцца ў "славяна-крывіцкай мове", у гістарычных паданнях і легендах, старадаўніх сімвалах, якім шмат стагоддзяў.

Адышоў з жыцця вялікі патрыёт, таленавіты працаўнік на ніве духоўнага адраджэння, 18 кастрычніка 1991 года. Пахаваны ў Вішневе.

Творчая і навукова-краязнаўчая спадчына Пятра Бітэля будзе спрыяць глыбейшаму пазнанню многіх старонак гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**

**Мікола АЛТУХОЎ**

## ГАРЛАЧЫК

**Зара, як шыпшына, ружовая**
**Фарбуе палі, сенажаць.**
**І, пэўна, з крыла жаўруковага**
**І песні, і росы ляцяць.**

**Пакрылася яркімі плямамі**
**І раска ў затоцы глухой,**
**Дзе жоўты гарлачык, як лямпачка,**
**Заззяў над сінечай рачной.**

**Стракозы над кветкаю круцяцца,**
**Мільгаюць наўкол матылі.**
**Гарлачык ніяк не адключыцца,**
**Хоць светла даўно на зямлі.**

## РАНІЦОЙ

**На зары, калі гаснуць зоркі,**
**Умываюцца ля ракі**
**Дзятлы, вожыкі і вавёркі,**
**Чаплі, кнігаўкі, жаўрукі.**

**Умываецца шпак на золку,**
**Заяц мыецца ля сасны.**
**Не ўмываюцца рыбы толькі,**
**Бо жывуць у вадзе яны.**

## ЛЕС

**Іду я ранкам пад лясныя шаты,**
**Апырсканыя чыстаю расой,**
**А лес шуміць, спявае, быццам рады**
**Сустрэчы і з зарою, і са мной.**

**Рабіны перашэптваюцца глуха,**
**І ззяюць кветкі, што з сабой вазьму:**
**Нямала песень я ў яго падслухаў,**
**Нямала песень праспяваў яму.**

**Зару ўслаўляе глухамань лясная,**
**І радуе мяне птушыны звон.**
**Люблю я гэты лес, бо ён спявае**
**Заўжды з маёй душой ва унісон.**

## ГУЧАЛА МАТЧЫНА МОВА

1 верасня ў мінскую школу № 192 прыйшлі арганізатары асацыяцыі творчай інтэлігенцыі "Духоўнае адраджэнне" паэт Алесь Пісарык і балетмайстар Мікола Котаў. Пры знаёмствах і сустрэчах гучала мілагучная і сакавітая матчына мова. А ў дадатак школа мае яшчэ і тэатральна-музычны ўхіл, немагчымы без шматлікіх музычных гуртоў, ансамбляў, тэатраў. І зразумела, што жаданне гасцей да цеснага сяброўства было ўспрынята станоўча. Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі паабяцалі дапамагчы ў стварэнні ў школе "Тэатра белых буслоў", папаўненні бібліятэчнага фонду, а таксама выступіць са сваімі творамі перад вучнямі.


Намеснік рэдактара
Дзіяна ЧАРКАСАВА

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 33-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1270. Падпісана да друку 8.9.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.